№ 24 (909) 24 чэрвеня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Справа Аляксея К.: за што інтэрнэт-прадпрымальніку могуць даць 7 гадоў калоніі**

Старонка 11

**Людзі, сканчаецца падпіска на паўгода!**

Не забудзьце падпісацца самі, падпісаць сваякоў!
**«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. Старонка 2.**

# Міністр працы раіць беларусам працаваць на дзвюх работах

93% беларусаў працуюць **на адной рабоце**, а трэба б на дзвюх, сказала яна.

Наведваючы гродзенскую абутковую фабрыку «Нёман», міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна параіла беларусам шукаць падпрацоўкі. «Мы паглядзелі, што амаль 93% беларусаў працуюць толькі на адной рабоце, а гэта і мужчыны. Але калі мама займаецца дома дзецьмі, дык хай тата «пакруціцца», — заявіла яна.

У інтэрнэце тысячы людзей у каментах ставілі тое самае пытанне: на якую другую работу ходзіць сама Марыяна Шчоткіна?

Паводле закона «Аб дзяржаўнай службе», чыноўнікі не могуць выконваць працу на ўмовах сумяшчальніцтва і займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю. Аднак і без гэтага Шчоткіна змагла забяспечыць свой дабрабыт.

Ураджэнка Мурманскай вобласці з дзясятак гадоў таму пабудавала вялікую трохпакаёўку (больш за 90 м²) у Мінску, а цяпер будуе катэдж каля Драздоў побач з іншымі высокімі чыноўнікамі.

**Працяг на старонцы 4.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Назад у сяло



**32-гадовы мінчук пераехаў жыць у дзедаву хату ў глухім Палессі. Дзённік. Старонкі 14—15.**

## Януковіч: У Майдане не вінаваты, асабняк і заапарк пад Кіевам не мой

Першае інтэрв’ю збеглага прэзідэнта заходнім СМІ. **Старонка 2.**

## «Не там стаў, не туды пайшоў»

Аляксандр Лукашэнка хоча правесці ўзорна ціхія выбары. **Старонка 3.**

## Чамадан энергетыкі цудоўных мясцін



Аўтар «Падарожжаў дылетанта»Юры Жыгамонт адказаў на пытанні «Нашай Нівы». **Старонка 12.**

## Праўда ў хлусні

Гісторыя бывае навукай суб’ектыўнай. **Старонка 10.**

# Януковіч: У Майдане не вінаваты, асабняк і заапарк пад Кіевам не мой

Першае інтэрв'ю **збеглага прэзідэнта** заходнім СМІ.

Былы прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч заявіў у інтэрв'ю «Бі-бі-сі», што часткова нясе адказнасць за забойствы падчас падаўлення пратэстаў у Кіеве ў лютым 2014 года.

Януковіч пераконвае, што ніколі не аддаваў загад адкрываць агонь па ўдзельніках акцый пратэсту, але прыклаў недастаткова намаганняў для таго, каб спыніць кровапраліцце.

«Я быў праціўнікам, катэгарычным праціўнікам кровапраліцця. Я лічыў, што ніякая ўлада не варта кроплі крыві людзей. Таму я быў супраць таго, каб пралілася кроў ва Украіне. І я зрабіў усё, каб ва Украіне не было вайны», — сказаў ён.

Пры гэтым ён усклаў адказнасць за кровапраліцце на радыкальныя элементы прыхільнікаў Майдану. Па словах Януковіча, цяперашняя ўкраінская ўлада не вядзе расследаванне падзей на Майдане.

На пытанне пра гатоўнасць вярнуцца ва Украіну, каб адказаць на абвінавачванні аб датычнасці да масавых забойстваў на Майдане, Януковіч сказаў, што расследаванне тых падзей практычна не вядзецца. «... Знішчаюцца ўсе сляды тых злачынстваў, якія здзейсненыя на Майдане. Сёння, калі прайшло столькі часу — ужо паўтара года, — сёння ўкраінцы зразумелі, што ў гэтых расстрэлах не зацікаўленая была ўлада і прэзідэнт, а зацікаўлены былі тыя ... радыкалы, тыя, я б сказаў, злачынцы, якія вырашылі такім шляхам захапіць уладу», — сказаў ён.

Януковіч заявіў, што не аддаваў загаду страляць па мітынгоўцах.

«Я ніякіх загадаў не даваў. Гэта не мае паўнамоцтвы, па-першае. Па-другое, я публічна казаў, што я супраць прымянення сілы, тым больш — стральбы. Я супраць кровапраліцця, я пра гэта ўвесь час казаў. Але. Работнікі праваахоўных органаў выконвалі свае абавязкі згодна з законамі існуючымі, таму яны мелі права на прымяненне зброі ў тых выпадках, калі гэта прадугледжана законам. І ў якіх выпадках яны яе ўжывалі, а ў якіх не ўжывалі — у мяне гэтых фактаў няма», — сказаў Януковіч.

Ён назваў вайну на ўсходзе краіны кашмарам, які стаў рэальнасцю. Анексія Крыма Расіяй стала, па яго словах, трагедыяй, якой бы не адбылося, калі б ён быў прэзідэнтам. Ён лічыць перспектыву вяртання Крыма Украіне не занадта рэалістычнай. «І людзі, галоўнае, крымскі народ, 90% насельніцтва Крыма прагаласавала за выхад з Украіны. Я лічу, што гэта вельмі дрэнна. Але гэта вынік таго, што зрабіў Майдан. Гэта вынік таго радыкальнага нацыяналістычнага руху, які напалохаў насельніцтва Крыма, якое традыцыйна было прарасійскім».


**інтэрнаўты пачалі рагатаць з Януковіча і ягоных страусаў.**

Януковіч таксама заявіў, што ён не прысвойваў дзяржаўныя сродкі і не хаваў грошы на рахунках у замежных банках.

Яго раскошны асабняк у прыгарадзе Кіева, які быў адкрыты пасля яго ўцёкаў шырокай публіцы, па яго словах, яму асабіста не належыць.

Плацяжы на мільёны долараў, выдаткаваныя на ўладкаванне комплексу, ён называе «палітычнымі тэхналогіямі». «Ёсць дом на тэрыторыі гэтай рэзідэнцыі, 630 квадратных метраў, які належыць Януковічу, які я купіў за ўласныя грошы, якія задэклараваў — яны ў мяне задэклараваныя, — я купіў, афіцыйна заплаціў у бюджэт. ... Усё астатняе, што было на гэтай тэрыторыі, яно не належыць мне асабіста і ніколі не належала», — адзначыў ён, дадаўшы пры гэтым, што заапарк на тэрыторыі рэзідэнцыі яму не належаў.

«Гэты заапарк, ён знаходзіцца наогул убаку. Я калі там бываў, то я бываў там два разы на год, умоўна кажучы, калі ў мяне быў час. Мне не асабліва калі было там бываць. Я працаваў.

Хоць я люблю жывёл, і калі ў мяне быў час і была магчымасць, я туды хадзіў».

### Даслоўна

**Януковіч: Я падтрымліваў гэтых страусаў**

У гутарцы было закранута і пытанне рэзідэнцыі Януковіча за Кіевам і наяўнасць заапарку.
**ВЯ:** Яшчэ раз паўтараю, што ўсё астатняе, што было на гэтай тэрыторыі, яно не належыць мне асабіста і ніколі не належала.
**Бі-бі-сі: А заапарк?**
**ВЯ:** Што?
**Бі-бі-сі: Заапарк, які там знаходзіцца, страусы і гэтак далей…**
**ВЯ:** Ну а што дрэннага ў тым, што я падтрымліваў людзей …
**Бі-бі-сі: Гэтыя страусы не належалі вам?**
**ВЯ:** Што дрэннага, што падтрымліваў? Скажыце мне?
**Бі-бі-сі: Што вы падтрымлівалі?**
**ВЯ:** Што я падтрымліваў гэтых страусаў. Што дрэннага ў гэтым?
**Бі-бі-сі: Падтрымлівалі страусаў …**
**ВЯ:** Ну яны жылі там. Яны проста жылі там.
**Бі-бі-сі: На тэрыторыі вашай рэзідэнцыі?**
**ВЯ:** А мне што, заплюшчыць вочы і хадзіць нічога не бачыць?
**Бі-бі-сі: Калі чуеш, што прэзідэнт краіны жыве на тэрыторыі са страусамі, якія там проста так ходзяць, гэта здаецца трохі неверагодным.**
**ВЯ:** Не, яны проста так там не хадзілі. Там асобная цалкам тэрыторыя, гэта…

# «Не трэба ўсіх сабак вешаць на Сталіна»

Святары арганізуюць **праваслаўны фэст** на «Лініі Сталіна».

18 і 19 ліпеня пад Заслаўем адбудзецца фестываль праваслаўнай моладзі. Па дабраславенні мітрапаліта Паўла мерапрыемствы пройдуць на тэрыторыі «Лініі Сталіна».

Святароў не бянтэжыць помнік дыктатару на тэрыторыі комплексу. Як, зрэшты, і тое, што ўмацаваныя раёны ўзводзілі вязні ГУЛАГа, а пасля вайны ў закінутых дотах расстрэльвалі ахвяр сталінізму.

Прэс-сакратар Мінскага епархіяльнага ўпраўлення протаіерэй Сергій Лепін не бачыць у гэтым праблемы. «Лінія Сталіна» — гэта помнік ахвярам Другой сусветнай вайны, — заявіў ён. — Там таксама стаяць помнікі воінам-афганцам, беларускім маракам. Тут не трэба шукаць двайны сэнс. Мэта мерапрыемства — аб'яднаць моладзь у сувязі са святкаваннем 70-годдзя Перамогі».


**Помнік Сталіну на тэрыторыі комплексу.**

Што тычыцца пазіцыі БПЦ наконт асобы Сталіна, Сергій Лепін адзначыў: «Вядома, варта цурацца спробаў апраўдання рэжыму Сталіна. Варта памятаць аб разбурэннях, братазабойчай вайне і нянавісці, якая была ў грамадстве пры ім. Але разам з тым не варта ўсіх сабак вешаць на Сталіна».

Яго калега, протадыякан Максім Логвінаў, які ўзначальвае моладзевы аддзел пры Мінскай епархіі і з'яўляецца арганізатарам фестывалю, кажа, што «Лінію Сталіна» абралі таму, што з гэтым аб'ектам у праваслаўнай царквы «склаліся добрыя адносіны».

Паводле яго слоў, неўзабаве на тэрыторыі лініі з'явіцца праваслаўная капліца. Святара не бянтэжыць, што яна будзе суседнічаць з помнікам Сталіну.

«Я супраць таго, каб бурыць помнікі. Гэта наша спадчына — якая ёсць, такая ёсць, — кажа протадыякан Максім Логвінаў. — Знішчэнне помнікаў нагадвае мне ісламскі радыкалізм, калі актывісты ІГІЛ руйнуюць старажытны горад Пальміра ў Сірыі».

Максім Логвінаў не толькі ўзначальвае моладзевы аддзел пры Мінскай епархіі, але таксама кіруе спартыўна-гістарычным клубам. У 2000 годзе выхаванцаў клуба трэніраваў даволі вядомы Дзмітрый Паўлючэнка, у той час — камандзір спецатрада хуткага рэагавання.

Праваслаўны тэолаг Наталля Васілевіч звяртае ўвагу, што ў апошні час актывісты праваслаўных рухаў, асабліва ў Расіі, усё часцей згадваюць імя Сталіна ў пазітыўным кантэксце.

«Давайце паглядзім, хто сёння ў Расіі «праваслаўныя дэпутаты». Гэта ж былыя камуністы! Раней яны супрацьпастаўлялі Амерыцы ідэі камунізму, а цяпер выкарыстоўваюць праваслаўе. Маўляў, Захад нам навязвае сваю мадэль паводзінаў, але мы, праваслаўныя людзі, будзем ім супрацьстаяць. І Сталін як сімвал добра ўпісваецца ў гэтую рыторыку», — гаворыць эксперт.

На яе думку, правядзенне фестывалю на тэрыторыі «Лініі Сталіна» можа выклікаць канфлікты сярод вернікаў. Васілевіч звярталася да мітрапаліта Паўла з просьбай перанесці мерапрыемства на тэрыторыю іншага комплексу. Аднак кіраўніцтва царквы дадзеныя аргументы адхіліла.

**Паводле: Адар'я Гуштын, naviny.by**



## Сціслa

**Актывісты на сутках**

Сябры руху «Еўрапейская Беларусь» Максім Вінярскі, Леанід Кулакоў пакараныя адміністрацыйным арыштам па 10 сутак. Сяргей Мацкойць асуджаны на 5 сутак. Актывісты былі затрыманыя за спробу вывесіць транспарант з надпісам «Свабоду Рубцову».

**Для паездкі ў Польшчу цяпер трэба мець 500 злотых**

Беларускія грамадзяне, якія едуць у Польшчу на дзень, павінны мець пры перасячэнні мяжы гэтую суму наяўнымі. Калі маеце на руках зваротны білет, дастаткова 300 злотых.

**Дзяўчынка завяла машыну і задушыла бабулю**

Здарэнне адбылося ў вёсцы Бязверхавічы Слуцкага раёна. 74-гадовая завіхалася ў двары дома. 6-гадовая дзяўчынка, знаходзячыся ў аўто, скарысталася пакінутым ў аўтамабілі ключом і запусціла рухавік. Машына наехала на бабулю, тая загінула на месцы здарэння.

**ЯМ**

## Рэкамендуем

**Папараць-кветка і што рабілі з дзяўчатамі: сем фактаў пра Купалле**

Кожнае свята мела сваю абрадавую страву. На Купалле гэта яечня. У некаторых мясцовасцях яе нават пяклі ў патэльні на вогнішчы.

**Чытайце на nn.by.**

## Апытанне на nn.by

**Як па-Вашаму, Еўрасаюз у выніку Грэчаскага крызісу…**

| | | |
|---|---|---|
| узмоцніцца | 104 | 20% |
| аслабне | 97 | 19% |
| ачысціцца | 259 | 50% |
| загіне | 18 | 3% |
| разваліцца | 44 | 8% |

Прагаласавала 522 чалавекі

## Самае чытанае на nn.by за 17—23 чэрвеня

1. 32-гадовы мінчук пераехаў жыць у дзедаву хату ў глухім Палессі
2. «У нас тут свая Беларусь»: спецрэпартаж з трэніровачнай базы палка «Азоў» у Кіеве
3. Міністр Шчоткіна скончае будаўніцтва катэджа ў Драздах ФОТА
4. Зміцер Дашкевіч: Калі працаваць, любая справа прыбытковая. Тысячу-паўтары я на мэблі зараблю
5. Kyky.org заблакавалі «па просьбе» эмігранта Вячаслава Дзіянава
6. Расійскі протаіерэй Чаплін: Мір, дзякуй Богу, доўгім не будзе
7. Пяць фактаў пра Вячаслава Дзіянава, па даносе якога заблакавалі Kyky.org
8. Галіць ці не галіць: апошні трэнд — валасатыя падпахі
9. Салаўёў: «Жыхарам Данбаса ніхто нічога не абяцаў» ВІДЭА
10. Шчоткіна: 93% беларусаў працуюць толькі на адной працы, а трэба на двзюх

# Першая ластаўка: заблакаваны сайт kyky.org

Прычына — «**шкода нацыянальным інтарэсам Беларусі**».

Да студзеня гэтага года блакаванне дзяржаўнымі органамі інтэрнэт-сайтаў не было замацавана заканадаўча. І калі да некаторых рэсурсаў доступ абмяжоўвалі, то прадстаўнікі ўлады толькі паціскалі плячыма: нічога не ведаем, мабыць, нейкія збоі ў вас на сайце ці ў правайдара. Прыкладна так падзеі развіваліся падчас апошняй дэвальвацыі ў снежні 2014, калі на колькі сутак недасяжнымі сталі папулярныя сайты «Беларускіх навін», «Салідарнасці», «Хартыі-97». Нешта падобнае было і падчас прэзідэнцкіх выбараў, вулічных акцый апазіцыі. Знайсці канцы, хто ж блакаваў сайты, было цяжка.

Цяпер жа сітуацыя змянілася. Міністэрства інфармацыі атрымала права сваім рашэннем абмяжоўваць доступ да старонак, што парушаюць заканадаўства, ці выносіць папярэджанні. Журналісты і праваабаронцы пераймаліся такімі папраўкамі, бо гэта можна выкарыстоўваць для ціску на незалежныя медыі.

На майскім медыяфоруме Усходняга партнёрства ў Рызе прадстаўнік Міністэрства інфармацыі Юрый Бябешка казаў, што ад моманту ўступлення навеўвядзення ў сілу было заблакавана 18 сайтаў, абсалютная большасць з якіх былі або парнаграфічнымі, або гандлявалі наркотыкамі. Тут пытанняў нуль. Аднак на мінулым тыдні з'явіўся і першы непрыемны інцыдэнт.

Раніцай 18 чэрвеня на сайце Міністэрства інфармацыі з'явілася паведамленне пра блакаванне сайта *kyky.org*. У паведамленні Міністэрства інфармацыі зазначалася: «У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь ад 17 ліпеня 2008 года «Аб сродках масавай інфармацыі» 15 чэрвеня 2015 г. Міністэрства інфармацыі Беларусі прыняло рашэнне аб абмежаванні доступу да інфармацыйнага рэсурса *kyky.org* з прычыны размяшчэння інфармацыі, распаўсюджванне якой здольна нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь (падпункту 1.3 пункта 1 артыкула 38 Закона аб СМІ)».

*Kyky.org* (чытаецца куку, а не кыкы) — зусім не радыкальны сайт. Гэта пляцоўка крэатыўнай сталічнай моладзі. Тых, каго апошнім часам прынята называць хіпстарамі. Рэдакцыя не злоўжывала палітычнымі навінамі, але і не пазбягала іх. Вельмі часта ў забаўляльнай форме яны пісалі пра бягучыя праблемы краіны, рабілі інтэрв'ю з няўгоднымі музыкамі і пісьменнікамі, друкавалі спрэчныя меркаванні, рабілі экскурсы ў гісторыю. Праз тое, што выданне нямала ўвагі надае тэме сэксу і часам прапускала матныя словы, некаторыя абвінавачвалі «Куку» ў пэўнай «жаўцізне». Хаця насамрэч гэта даволі якаснае выданне для моладзі. Тым больш дзіўны выбар, што першымі заблакавалі менавіта іх.

Дык як «Куку» мог «нашкодзіць нацыянальным інтарэсам Беларусі»? Можа, справа ў тым, што перад 9 мая на сайце быў надрукаваны тэкст Аляксандра Кныровіча «Подзвіг аднаго — заўсёды злачынства іншага», дзе была зроблена спроба асэнсавання Дня Перамогі і падзей Вялікай Айчыннай вайны. Амаль усе пагадзіліся, што меркаванне даволі звычайнае. І ў беларускай перыёдыцы падобныя каментары з'яўляліся неаднакроць. У прыватнасці, Кныровіч выказвае думку, што не ўсе ветэраны вайны аднолькавыя героі, а былі сярод іх і «сволачы-камісары», якія стралялі саслужбоўцам у спіну.



Былы прэм'ер Міхаіл Мясніковіч зрабіў «сэлфі» з рэдакцыяй kyky.org. Злева ад Мясніковіча — галоўная рэдактарка «Куку» Саша Раманава.

Аднак знайшліся такія, каго словы Кныровіча надзвычай абурылі. Палітычны эмігрант Вячаслаў Дзіянаў напісаў у Міністэрства інфармацыі ліст з просьбай пакараць «Куку» за такую публікацыю. Сам матэрыял Кныровіча ён назваў «нацысцкай адрыжкай». Мініфарм прыслухалася да «просьбаў».

Вячаслаў Дзіянаў стаў знакамітым пасля маўклівых акцый пратэсту ў 2011 годзе. Ён быў адным з тых, хто вёў суполкі акцый пратэсту ў сацыяльных сетках. Пасля выбараў 2010, на якіх Дзіянаў падтрымліваў Алеся Міхалевіча, ён з'ехаў у Польшчу. Вучыўся на праграме Каліноўскага, але быў адлічаны за непаспяховасць.

За апошнія некалькі гадоў Дзіянаў «перафарбаваўся» ў патрыёта Расіі. Бэсціць «украінскіх бандэраўцаў» і ўсхваляе байцоў «ДНР» і «ЛНР». Хоча атрымаць грамадзянства Расіі. Быў нават розыгрыш, калі Дзіянаву прапаноўвалі працу на карысць Расіі і ён пагадзіўся. Цяпер Дзіянаў пачаў пісаць лісты ў дзяржструктуры, пры гэтым ён застаецца жыць у Польшчы. З беларускай апазіцыяй Дзіянаў не мае дачынення.

У панядзелак 22 чэрвеня адбылася сустрэча рэдакатараў *kyky.org* з намеснікам міністра інфармацыі Ігарам Луцкім. Бакі прыйшлі да пагаднення, што спрэчныя моманты з сайта знікнуць, а таксама з'явіцца прамадэрацыя (папярэдні прагляд) каментароў, каб там не было матных слоўаў. Міністэрства абяцае найбліжэйшым часам аднавіць доступ да сайта.

Выглядае, што канфлікт будзе вычарпаны, але прысмак таго, што ў пэўны час любы сайт можа аказацца пад забаронай, застаецца.

**Зміцер Панкавец**

# А куды яшчэ патрыярху Кірылу ехаць?

Патрыярх Маскоўскі **наведаў Беларусь.**

Першае, што кінулася ў вочы — гэта адсутнасць антуражу ад візіту Кірыла. Усё не было надта пампезна абстаўлена, не было чэргаў з вернікаў, якія хацелі сустрэцца з патрыярхам. Усё прайшло сціпленька. Напрыклад, два гады таму, калі Кірыла прыязджаў разам з кіраўнікамі памесных праваслаўных цэркваў на юбілей хрышчэння Русі, тысячы людзей сабраліся на літургію на Замчышчы ў Мінску.

«Паглядзець на патрыярха — гэта не такое ўжо дзіва, — кажа рэдактарка сайта «Царква» Наталка Васілевіч. — У Мінску ён ужо бываў неаднаразова. А вось у Брэсце сабралася больш унушальная колькасць людзей».

«Мы знаходзімся на самым заходнім памежжы Святой Русі, — сказаў патрыярх Кірыл у Брэсце. — Так яе называлі летапісцы і святыя ўгоднікі царквы не таму, што нашы людзі былі больш святымі, чым тыя, хто жыў у іншых месцах. Усякае было і на нашай зямлі: і святасць, і грэх, і любоў да Бога і богаадступніцтва. Ды і па колькасці храмаў Русь не заўсёды пераўзыходзіла сваіх суседзяў. Але ў чымсьці яна заўсёды пераўзыходзіла многія народы, чаму і стала называцца святой. Бо святасць была агульнанацыянальным ідэалам».



Гісторык Анатоль Сідарэвіч адзначае, што на сёння не так шмат краін, куды патрыярх Кірыл можа прыехаць з візітам. «Ва Украіну сёння шлях яму заказаны. У Латвіі год таму сказалі, што прыезд Кірыла непажаданы. У Малдове царква на раздарожжы, многія цэрквы могуць перайсці пад юрысдыкцыю Румынскай праваслаўнай царквы. У Грузію братэрскі візіт таксама малаімаверны. Беларусь на фоне падзей у РПЦ — гэта такі астравок стабільнасці».

У сваю чаргу Наталка Васілевіч кажа, што наўрад ці ў візіце Кірыла асноўным быў палітычны складнік. «Мне здаецца, што гэты візіт адбыўся «ў парадку аўдыту» першага года мітрапаліта Паўла ў Беларусі: ці навёў ён тут парадак, ці выконваюцца даручэнні». Васілевіч адзначае, што на сёння мітрапаліт Павел вядзе палітыку ў згодзе з Маскоўскай патрыярхіяй. «Хаця ў яго і быў сур'ёзны касяк з ініцыятывай аб самакіраванасці БПЦ. Праўда, гэтую сітуацыю нейкім чынам удалося замяць». Аднак, як адзначае эксперт, тут Павел можа ўвайсці ў канфлікт з настроямі духавенства і вернікаў.

Тое самае лічыць і Анатоль Сідарэвіч. «На афіцыйным узроўні пытанне самакіраванасці БПЦ больш не ўздымаецца. Але неафіцыйна яно па-ранейшаму абмяркоўваецца. І растаптаць гэтую ідэю не атрымаецца».

**ЗП**

## Лукашэнка пра выбары: «Без усякіх там дурных ініцыятыў тыпу «не там стаў, не туды пайшоў, хапаць, цягнуць»

Пра гэта кіраўнік дзяржавы заявіў на нарадзе па актуальных унутрыпалітычных пытаннях.

Па яго словах, асаблівая важнасць бяспекі перад выбарамі абумоўлена тымі трывожнымі падзеямі, якія адбываюцца на міжнароднай арэне і непасрэдна ля межаў Беларусі. У сувязі з гэтым ён падкрэсліў, што кіраўнікам усіх органаў улады трэба забяспечыць дакладнае, бесперабойнае функцыянаванне дзяржаўнага апарата, жорсткую выканальніцкую дысцыпліну, максімальную скаардынаванасць дзеяннаў вертыкалі ўлады і сілавых структур.

«Але пры гэтым хачу папярэдзіць: без усялякіх празмернасцей, без усялякіх дурных, бесталковых, непатрэбных ініцыятыў, тыпу «не туды пайшоў, не там стаў, хапаць, цягнуць і гэтак далей». Працуйце на апярэджанне, тлумачце, прасіце», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

«Мы не павінны дапусціць пры гэтым ні найменшай дэстабілізацыі абстаноўкі ў краіне!» — падкрэсліў Лукашэнка.

**БелТА**

Працяг са старонкі 1.

# Міністр Шчоткіна раіць беларусам круціцца

Кадастравая цана яе 11 сотак зямлі, без уліку пабудовы, — $210 тысяч. Але рынкавы кошт значна большы. У суседніх Драздах за катэджы просяць да $1,5 мільёна. У Вяснінцы ж рыэлтары ацэньваюць зямлю ў $1 мільён.

Сярэдні заробак у Беларусі ў красавіку 2015 склаў $452. Выходзіць, простаму беларусу давядзецца працаваць 184 гады, каб купіць такі дом.

«Наша Ніва» наведала «Дразды-2», дзе дабудоўваецца катэдж чыноўніцы.

На жаль, рабочых на аб'екце не было. Іх калегі з суседніх будоўляў патлумачылі, што апошні тыдзень у Шчоткінай працавалі тынкоўшчыкі, але якраз учора скончылі працу.

Асабняк міністра вось ужо другі год узводзіцца на вачах суседкі з хаты насупраць. Падчас размеркавання надзелаў у Вяснінцы было вырашана пакінуць некалькі старых дамоў. Зносіць іх і выплачваць кампенсацыю было задорага для дзяржавы.





Дом міністра ў «Драздах-2».



На «Мінскай лыжні» Шчоткіна бегла нароўні з Міхаілам Мясніковічам.

«У мяне тут быў сад — і алыча, і парэчкі. У бацькоў было калісьці 30 сотак! А пасля прыйшлі і абрэзалі зямлю да 3 сотак. Прыгналі бульдозер», — расказвае суседка Шчоткінай.

Заглушаючы размову, з суседняга дома няспынна раве перфаратар, машыны ўздымаюць пыл да неба.

«Я і на пенсіі, і раблю, але ўсё адно, што прыходзіць, тое і сыходзіць. Нічога падобнага не пабудуеш», — кажа жанчына, на былым участку якой будуецца міністр.

ЯМ

# Як настаўніца з Запаляр'я ганяе беларускіх дармаедаў

**Гісторыя жыцця** Марыяны Шчоткінай.

У адрозненне ад большасці калег, міністр працы і сацыяльнай абароны не хаваецца ад грамадскасці і гатовая абгрунтоўваць пазіцыю. Праўда, пра сваё мінулае Марыяна Шчоткіна расказваць не любіць. «Наша Ніва» паспрабавала аднавіць яе біяграфію.

### Мёртвы востраў

Будучы міністр нарадзілася на востраве Кільдын каля Мурманска. Гэта крайняя поўнач, Запаляр'е. Людзі на Кільдыне з'явіліся толькі ў XIX ст. Гэта былі нарвежскія каланісты.

Пасля прыходу бальшавікоў мясцовых жыхароў знішчылі. На Кільдыне арганізавалі канцлагер. Востраў стаў закрытым вайсковым аб'ектам.

На востраве размясцілі памежнікаў, артылерыстаў і ракетчыкаў. Крама, школа, пякарня ды лазня — вось і ўся сацыяльная сфера.

Але шукаць сваякоў чыноўніцы на Кільдыне няварта. Пасля развалу СССР востраў закінулі. «Разруха паўсюль. Прычал зламаны, на беразе няма ніводнага цэлага будынка. Звалка хімікатаў, побач іржавее кінутая тэхніка», — апісваюць свае ўражанні наведвальнікі Кільдына. Паводле апошняга перапісу насельніцтва, на востраве жыло 10 чалавек, вайскоўцы. Цяпер нібыта з'ехалі і яны.

### Паўночная праца

Вышэйшую адукацыю Марыяна атрымала ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Яе спецыяльнасцю стала фізіка.

Пасля вучобы Шчоткіна трапіла ў Акустычны інстытут імя акадэміка Андрэева. Навуковая арганізацыя базавалася ў Маскве, але мела Паўночны філіял у Севераморску, дзе даследавалі распаўсюд гуку ў акіянскіх водах. Шчоткіна чатыры гады адрабіла ў гэтай сакрэтнай установе інжынерам.

У Севераморску базаваўся Паўночны флот СССР, таму горад быў закрытым для выпадковых наведнікаў.

### Пераезд на радзіму мужа

Падчас падрыхтоўкі гэтага артыкула давялося пагутарыць з дзясяткам знаёмых Шчоткінай, пераважна яе былых калег. Аднак ніхто з іх не ведаў, чаму ў 1986 годзе чыноўніца пераехала ў Беларусь. Не ўзгадвала ў інтэрв'ю і сама чыноўніца.

Адна з суразмоўцаў выказала здагадку, што Шчоткіна сустрэла ў Севераморску мужа з Беларусі і перабралася ў Мінск разам з ім. Тым больш у гэтыя гады ў сям'і якраз нарадзіўся сын.

«Марыяна Акіндынаўна расказвала, што заўсёды віншавала свёкра з Днём Перамогі, ён быў партызанам», — узгадваюць калегі.

### Любіміца вучняў

У 1990-м у новым сталічным мікраёне, у Кунцаўшчыне, адкрылася школа №198. Яе дырэктарка, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Людміла Аляксеева, на наступны год дабілася для школы статуса гімназіі. Гэта была адна з некалькіх навучальных установаў новага тыпу ў краіне.

На хвалі адраджэння школа адразу стала беларускамоўнай. Праўда, для «тэхнічных» прадметаў было зроблена выключэнне — фізіка, хімія, матэматыка, біялогія спачатку выкладаліся па-руску.

Марыяна Шчоткіна працавала ў школе №198 (цяпер гэта гімназія №4) з першага дня і выкладала якраз-такі фізіку. Вучні былі ў захапленні ад маладой настаўніцы. А сама Шчоткіна любіла грамадскую дзейнасць, узначаліла прафкам.

Дзякуючы яе арганізатарскім здольнасцям школьная каманда Клуба вясёлых і кемлівых стала пераможцай на гарадскіх спаборніцтвах. Настаўніца сама распрацоўвала сцэнары і прыдумляла жарты.

У першых шэрагах Шчоткіна была і падчас спартыўных спаборніцтваў. Гэтае ўменне спатрэбілася ёй і на міністэрскай пасадзе. Чыноўніца была адзінай з жанчын, хто нароўні з мужчынамі ўдзельнічаў у «Мінскіх лыжнях». У 2013-м, калі яна стала шасцацатай з 16 удзельнікаў, яе нават узнагаравалі прызам «За волю да перамогі».

### Шлях да дырэктара

...Неўзабаве энергічная настаўніца змяніла месца працы. У 1994 годзе яна перайшла ў школу №159 у суседнім мікраёне.

«Яна была куміркам моладзі. Яе ўжо ў школе не было, а дзеці толькі пра яе і гаварылі: наша Шчоткіна, наша Шчоткіна», — узгадвае вучаніца.

Дырэктарам школы №159 была Таццяна Сычова, якая славілася ўменнем знаходзіць дадатковыя рэсурсы. Напрыклад, навучальная ўстанова першай у раёне адкрыла камп'ютарны клас і псіхалагічную службу. Дапамог у тым, дарэчы, Фонд Сораса.

### Пераход у чыноўніцы

Час кіраваць надышоў для Шчоткінай у 1999 годзе, калі яна стала дырэктарам. Пры новым начальніку ў школе з'явіліся ліцэйскія фізіка-матэматычныя класы, аднак паўнавартасна разгарнуцца не паспела. Ужо ўвосень 2001 яе перавялі на чыноўніцкую пасаду.

Шчоткіна ўзначаліла ўпраўленне адукацыі Фрунзенскага раёна, а праз два гады зрабіла яшчэ адзін скачок наверх. Чыноўніца стала намесніцай старшыні Ленінскага райвыканкама па сацыяльных пытаннях.

Яе кіраўніком тады быў Пятро Грушнік. Цяпер Грушнік — першы намеснік Шчоткінай.

### Змагарка з дармаедамі

Новага павышэння чыноўніца зноў чакала ўсяго два гады. З 2005 года яна — старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама. У 2007-м Шчоткіна стала намесніцай у Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, а ў 2009 — непасрэдна міністрам.

Гэта пры яе падтрымцы з савецкіх архіваў дасталі «закон аб дармаедах», афіцыйна — дэкрэт «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрымамства». Шчоткіна даводзіла справядлівасць новаўвядзення: «Ніхто з голаду не памрэ. Калі ў чалавека ляжаць мільёны ў касе, і ён на іх жыве, яму будзе нескладана заплаціць 3,6 мільёна рублёў. Ён карыстаецца ўсімі выгодамі дзяржавы... Калі муж добра зарабляе і можа сабе дазволіць, каб жонка не працавала, і яны прынялі такое рашэнне, то 20 базавых — невялікая сума, яе можна і аплаціць».

Шчоткіна шчырая і з пенсіянерамі. «Не трэба скардзіцца на нізкія пенсіі, — папярэджвала яна. — Перш за ўсё, трэба выхоўваць сваіх дзяцей, якія будуць вам потым дапамагаць. Гэта раз. [А] дзяржава падтрымае [толькі] ў меру магчымасцяў», — папярэджвала чыноўніца.

Не спяшаецца дзяржава і на дапамогу беспрацоўным. Калі ты без работы і без стажу, ты можаш разлічваць на дапамогу памерам 150 тысяч за месяц. Гэта падыход, каб людзі не заседжваліся на дапамогах ад дзяржавы.

Заявы Марыяны Шчоткінай на кіруючай пасадзе адпавядаюць правілам жорсткага капіталізму. Ідзіце і зарабляйце, вось вам і праца, і сацыяльная абарона.

Ягор Марціновіч

**Марыяна Шчоткіна**

Нарадзілася ў 1958 на востраве Кільдын Мурманскай вобласці Расіі.

Скончыла Ленінградскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. Жданава па спецыяльнасці «фізіка» (1982), Акадэмію кіравання (2007).

У 1986 пераехала ў Мінск. Зрабіла кар'еру ў адукацыі.

Ад 2003 — намесніца кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёна Мінска. Ад 2005 — старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама. Ад 2007 — намесніца міністра працы і сацыяльнай абароны. Ад 2009 — міністр працы і сацыяльнай абароны.

Замужам, мае сына.

**Каментары на nn.by**

«А ўсё-ткі яна круціцца!», мяркуючы па яе дабрабыце.

Як ёй удалося пабудаваць катэдж, не прадаўшы кватэры?

У Еўропе ў простых людзей такія дамы, у нас толькі ў чыноўнікаў.

Для гэтай паненкі 3 600 000 — фігня? А для мяне гэта зарплата за 1,5 месяца.

Шчоткіна не пераблытала назву свайго міністэрства? Яна павінна абараняць — збірае падаткі іншае ведамства!

# Лукашэнка сустрэўся з мільярдэрам, якога расшуквае Інтэрпал

У канцы 1990-х браты Карычы лічыліся «**кашалькамі Мілошавіча**».

Аляксандр Лукашэнка 22 чэрвеня правёў сустрэчу з сузаснавальнікамі міжнароднай камерцыйнай кампаніі «Браты Карычы». Адзін з удзельнікаў спаткання — дэпутат Скупшчыны (парламента) Сербіі Драгамір Карыч. Менавіта ён паведаміў, што напрыканцы кастрычніка Мінск плануе наведаць прэзідэнт Сербіі Таміслаў Нікаліч.

Больш цікавая асоба другога ўдзельніка сустрэчы — мільянера Багалюба Карыча. Гэта чалавек знаходзіцца ў міжнародным вышуку Інтэрпала.

61-гадовы Багалюб Карыч — адзін з найбагацейшых людзей Сербіі. Ягоная кампанія «Браты Карычы» працуе ў самых розных сферах: будаўніцтва (возьмуцца за праект «Мінск-Мір»), тэлекамунікацыі, фінансы, адукацыя, СМІ.

Пры кіраўніцтве Слабадана Мілошавіча Карыча называлі «міністрам без партфеля», хаця і міністрам прыватызацыі пару месяцаў ён пабыў. Па неафіцыйных звестках, ягонае багацце дасягала 5 мільярдаў даляраў. Ясна, што без дазволу і заступніцтва ўладаў ва аўтарытарнай краіне Карыч бы не дасягнуў такіх поспехаў.

Амаль як некаторыя сённяшнія беларускія бізнэсоўцы, у канцы 1990-х Карыч быў абвешчаны «неўязным» на тэрыторыю Еўрасаюза, то бок трапіў у санкцыйныя спісы. Іншым разам Карыча называлі «кашальком Мілошавіча».

Пасля звяржэння рэжыму Мілошавіча пазіцыі Карычаў сталі больш хісткімі. Яшчэ ў 2001 годзе яму былі выстаўленыя абвінавачанні ў незаконным вывадзе грошай за мяжу, але ад гэтага ўдалося адкруціцца. Бізнэсмен нават спрабаваў вылучацца ў прэзідэнты, на выбарах 2004 года заняў трэцяе месца з 18% галасоў. Заснаваў палітычны рух «Сіла Сербіі».



Шматмільярдны праект «Мінск-Мір» на месцы няўдалага «Мінск-Сіці»



Багалюб Карыч.

У 2006 годзе супраць Багалюба Карыча была заведзеная крымінальная справа за фінансавыя махінацыі. Гэта адбылося пасля расследавання дзейнасці першага сербскага апэратара мабільнай сувязі *Mobtel*, была выяўлена шкода дзяржаве ў памеры 40 мільёнаў еўра. Прыбыткі ад мабільнай кампаніі з дапамогай фірмаў-аднадзёнак выводзіліся ў афшорныя зоны. Быў выдадзены ордар на арышт Карыча, але да таго часу ён ужо пакінуў Сербію. Пісалася нават, што з Бялграда Карыч вылецеў у Мінск.

Праўда, у выніку бізнэсовец атрымаў прытулак у Маскве. Расія адмаўляецца выдаваць Карыча Сербіі. Дарэчы, у Расіі знайшлі прытулак таксама жонка і сын Слабадана Мілошавіча.

Сёлета ў сакавіку Багалюб Карыч заявіў, што гатовы вярнуцца ў Сербію, калі справа супраць яго будзе спыненая. У маі ён быў у Мінску.

Цікава, што ў «Драздах-2» будаўніцтва катэджа вядзе Алівера Нядзелькавіч, сястра Багалюба Карыча. Не зразумела, ці гэта яна робіць для сябе, ці для брата.

**Зміцер Панкавец**

**Што будуюць Карычы ў Мінску?**

«Мінск-Мір» — квартал на месцы аэрапорта «Мінск-1», які зруйнуюць. Раней расейцы планавалі будаваць тут «Мінск-Сіці», аднак праект праваліўся.

«Маяк Мінска» — квартал на праспекце Незалежнасці каля Нацыянальнай бібліятэкі.

«Вівальдзі» — жылы комплекс ва Уруччы.

«Чайкоўскі» — жылы комплекс на рагу праспекта Машэрава і вуліцы Ціміразева

«Рахманінаў» — жылы комплекс у Зялёным Лузе

«Бела Віста» — жылы комплекс каля парку Чалюскінцаў

## Цэны ў Еўропе: дзе танней, дзе даражэй

Рэйтынг краін **ад Македоніі да Швейцарыі**.

Еўрастат у сваім даследаванні ранжыраваў усе 28 краін Еўрасаюза ад дарагіх да танных.

**Цэны ў еўрапейскіх краінах**

| № краіны | Узровень цэн |
|---|---|
| 1. Швейцарыя | 154 |
| 2. Нарвегія | 148 |
| 3. Данія | 138 |
| 4. Швецыя | 125 |
| 5. Фінляндыя | 123 |
| 6. Вялікабрытанія | 122 |
| 7. Ірландыя | 121 |
| 8. Люксембург | 120 |
| 9. Ісландыя | 117 |
| 10. Нідэрланды | 111 |
| 11. Бельгія | 109 |
| 12. Францыя | 108 |
| 13. Аўстрыя | 107 |
| 14. Італія | 102 |
| 15. Германія | 102 |
| Сярэднія цэны Еўрасаюза | 100 |
| 16. Іспанія | 93 |
| 17. Кіпр | 89 |
| 18. Грэцыя | 86 |
| 19. Славенія | 83 |
| 20. Мальта | 83 |
| 21. Партугалія | 81 |
| 22. Эстонія | 79 |
| 23. Латвія | 72 |
| 24. Славакія | 69 |
| 25. Харватыя | 67 |
| 26. Чэхія | 64 |
| 27. Літва | 64 |
| 28. Турцыя | 61 |
| 29. Венгрыя | 57 |
| 30. Чарнагорыя | 57 |
| 31 Польшча | 56 |
| 32. Румынія | 54 |
| 33. Боснія | 53 |
| 34. Сербія | 53 |
| 34. Албанія | 50 |
| 35. Балгарыя | 48 |
| 36. Македонія | 47 |

Даведкава ў рэйтынг уключаныя астатнія еўрапейскія краіны, за выняткам Беларусі, Расіі, Украіны і Малдовы, а таксама краін-карлікаў.

У выніку самай дарагой краінай аказалася Швейцарыя, дзе тавары і паслугі на 54% даражэйшыя, чым у сярэднім па Еўрасаюзе. Самая танная — Македонія. Мясцовыя цэны ніжэйшыя за сярэднія на 53%.

### Ашчаднае жыццё

Якія перавагі прапануюць спажыўцам асобныя краіны Еўрасаюза? Напрыклад, Польшча спадабаецца тым, хто шукае харчаванне і безалкагольныя напоі. Яны на 39% таннейшыя, чым у астатняй Еўропе. Таксама нізкія цэны на бытавую тэхніку — на 15% таннейшыя. Зрэшты, гэтым даўно карыстаюцца беларускія турысты.

Алкаголь і тытунь раяць купляць у Балгарыі (на 42% танней). Іншая перавага прымарскай краіны — самыя танныя ў ЕС гатэлі і рэстараны.

Нарэшце, аўтамабілі выгадна купляць у Чэхіі, а адзенне — у Венгрыі.

Па большасці пазіцый з пералічанымі краінамі-«пераможцамі» могуць змагацца Македонія і Албанія, аднак да Еўрасаюза яны пакуль не даraслі.

### Па-багатаму

Не-еўрасаюзаўскія Швейцарыя і Нарвегія лідзіруюць па большасці пазіцый, а ў самім ЕС першынство за Даніяй. Тут самае дарагое адзенне, аўтамабілі, а таксама рэстараны і гатэлі.

У Ірландыі нявыгадна купляць алкаголь і цыгарэты, а ў Швецыі — вопратку.

Нарэшце, тэхніка становіцца самай дарагой, даязджаючы да Мальты.

**Ягор Марціновіч**

## Нарасхват «Рэно», «Хёндэ» і «Фальксваген»

Расійскае аналітычнае агенцтва «Аўтастат» апублікавала вынікі продажу новых аўтамабіляў у Беларусі. За студзень-май дылеры рэалізавалі 22440 машын, у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам быў зафіксаваны скачок продажаў на 71%.

Якія мадэлі аўто карысталіся найбольшым попытам? Нага ў нагу ідуць «Фальксваген Пола Седан» (1952 прададзеныя аўто) і «Хёндэ Акцэнт» (1938). З вялікім адрывам ад іх адстае «Нісан Альмэра» (1061).



Цэны на «Рэно Логан Класік» пачынаюцца ад $8 тысяч.

Аднак па долі на рынку лідарам стала «Рэно» (3348 аўто). Адразу тры мадэлі французскага канцэрна — «Сандэра», «Дастар» і «Логан» — былі прададзеныя па 900—1000 разоў. Канкурэнты, «Хёндэ», «Фальксваген» і «Нісан», прадалі каля 2500—2900 аўто.

А вось «Джылі» ў дзясятцы найлепшых расійскага рэйтынгу адсутнічае.

**ЯМ**

## Квадратны метр у Мінску ўжо таннейшы за $1400

Цэны на нерухомасць у Мінску **працягваюць зніжацца**.

Паводле дадзеных Нацыянальнага кадастравага агенцтва, у маі 2015 года квадратны метр каштаваў $1393.

У параўнанні з красавіком гэтая лічба зменшылася на $27, а за год — на $350. Фактычна сярэдняя двухпакаёўка (50 м²) у Мінску патаннела за год на $17—20 тысяч.

Гэта лічбы рэальных угодаў, але прадаўцы спадзяюцца прадаць нерухомасць даражэй.

Паводле падлікаў *Realt.by*, сярэдняя прапанова квадратнага метра цяпер складае $1487 і працягвае штотыднёвае змяншэнне.

**ЯМ**

## Сцісла

### Плацёжныя тэрміналы адклалі на 1 студзеня

Юрасобы і індывідуальныя прадпрымальнікі, якія працуюць у Мінску і абласных цэнтрах, змогуць абсталяваць кожную касу плацёжным тэрміналам да 1 студзеня 2016 года. Раней меркавалася, што новаўвядзенне запрацуе з 1 ліпеня 2015 года.

### 4-е месца ў «антырэйтынгу» эканамічнага росту

Партал *Business Insider* прагназуе, што сёлета ВУП Беларусі знізіцца на 3,5%, у наступным годзе — яшчэ на 1%. Горшая сітуацыя ў свеце толькі ва Украіны, Венесуэлы і Лівіі.

### 50-рублёвак больш не будзе

З 1 ліпеня сыходзяць з абароту самыя дробныя купюры. Да канца года 50-рублёўкі можна будзе абмяняць у любым банку, а да 30 чэрвеня 2016 — у Нацбанку.

### Каля «Дрымлэнда» пабудуюць Вярхоўны суд

Будынак з'явіцца на вуліцы Арлоўскай, праз дарогу ад Палаца Незалежнасці. Будаваць новы суд будзе іранская кампанія «Кейсан» за свае грошы ўзамен на права дабудаваць комплекс «Магніт» на тры гады пазней за абяцаныя тэрміны.

**ЯМ**

# Сорас: Пры цэнах на нафту, значна ніжэйшых за $100, рэжым Пуціна не працягне больш за тры гады

Занепад у Расіі павінен суправаджацца **росквітам Украіны**.

Для заканчэння канфлікту ў Данбасе санкцыі супраць Масквы неабходна сумясціць з палітычным рашэннем саюзнікаў Кіева зрабіць усё неабходнае не толькі для выжывання краіны, але і для паспяховага правядзення ў ёй маштабных палітычных і эканамічных рэформаў, нягледзячы на жорсткі супраціў з боку Уладзіміра Пуціна.

Пра гэта амерыканскі фінансіст-мільярдэр Джордж Сорас напісаў у сваім артыкуле на партале *Project Syndicate*, паведамляе *gordonua.com*.

На думку бізнэсоўца, санкцыі, нягледзячы на іх неабходнасць, наносяць шкоду не толькі Расіі, але і ўсёй еўрапейскай эканоміцы. Таму ён перакананы, што забяспечыць росквіт украінскай эканомікі было б карысна і Украіне, і Еўропе.

«Яшчэ важна тое, што санкцыі самі па сабе пацвярджаюць пуцінскі тэзіс, быццам бы Расія стала ахвярай ці то заходняй, ці то англасаксонскай змовы з мэтай пазбавіць яе законнага статуса вялікай дзяржавы, роўнай ЗША. Паводле сцвярджэння крамлёўскай прапагандысцкай машыны, усе эканамічныя і палітычныя цяжкасці Расіі выкліканыя варожасцю Захаду», — рэзюмаваў амерыканскі фінансіст.

Сорас паведаміў, што лічыць адзіным спосабам абвергнуць гэты тэзіс — спалучэнне санкцый з эфектыўнай падтрымкай Украіны. «Калі занепад у Расіі будзе суправаджацца росквітам Украіны, ніякая прапаганда не зможа схаваць таго факта, што вінаваціць за гэта варта палітыку Пуціна», — падкрэсліў ён.




Ён таксама адзначыў, што Пуцін ведае, што гэта менавіта ёнператварыў Украіну «з падатлівага саюзніка ў непрымірымага суперніка». «З тых часоў яго галоўным прыярытэтам стала дэстабілізацыя новай Украіны. На гэтым фронце яму сапраўды ўдалося дабіцца значных — хай і асабліва часовых — поспехаў. Яго спешка тлумачыцца яшчэ і разуменнем таго, што пры цэнах на нафту, значна ніжэйшых за $100 за барэль, пуцінскі рэжым можа не працягнуць і двух-трох гадоў», — мяркуе Сорас.

**Мікола Бугай**

## Расійскі протаіерэй Чаплін: Мір, дзякуй Богу, доўгім не будзе



У адказ апанент Чапліна Леанід Гозман звярнуў увагу, што «протаіерэй Усевалад Чаплін толькі што сказаў: дзякуй Богу, што будзе вайна».

«Калі людзі прывыклі жыць занадта спакойна, лепш, каб была», — кіўнуў Чаплін.

На пытанне аб тым, чаму цэрквы і святары так багата ўбраныя, Чаплін даў шыкоўны адказ: «Людзі прыходзяць і купляюць самі святару залачоны крыж, купляюць машыны і купляюць золата для іканастаса і ўпрыгожваюць абразы. Якраз на іканастас і на іконы звычайна бізнэс нам нічога не дае. Людзі прыходзяць і кажуць: хочам, каб у храме быў пазалочаны патрыярх, пазалочаны крыж».

**Зміцер Міцкевіч**

«Свецкасць — гэта мёртвая ідэалогія. Калі грамадства жыве ва ўмовах адноснага міру — спакою, сытасці — нейкую колькасць дзесяцігоддзяў, парачку-троечку, яно можа пражыць ва ўмовах свецкасці», — сказаў старшыня Сінадальнага аддзела РПЦ па ўзаемадзеянні царквы і грамадства протаіерэй Усевалад Чаплін падчас дыскусіі ў эфіры радыё «Эхо Москвы».

«Ніхто не пойдзе паміраць за рынак ці дэмакратыю, а неабходнасць паміраць за грамадства, яго будучыню рана ці позна ўзнікае. Мір доўгім не бывае. Мір зараз доўгім, дзякуй Богу, не будзе. Чаму я кажу «дзякуй Богу»: грамадства, у якім занадта шмат сытага і спакойнага, беспраблемнага, камфортнага жыцця — гэта грамадства, пакінутае Богам, гэта грамадства доўга не жыве.

Баланс паміж свецкасцю і рэлігійнасцю, напэўна, выправіць сам Бог, умяшаўшыся ў гісторыю і паслаўшы пакуты. Пакуты, якія ў гэтым выпадку пойдуць на карысць. Таму што яны дазволяць апамятацца тым, хто занадта прывык жыць ціха, спакойна і камфортна. Прыйдзецца пажыць інакш. І вось тады сапраўдны баланс зноў вымалюецца».

**Цытата**

## «Лукашэнка выпусціць Статкевіча ў верасні»



«Для мяне незразумела, як гэты чалавек [Мікола Статкевіч] у тых умовах, у якіх ён знаходзіцца апошнія пяць гадоў, здольны жыць і быць верным таму, у што ён верыць. Для звычайнага чалавека вельмі складана зразумець, якая ўнутраная сіла павінна быць, каб чалавек мог існаваць у такіх жахлівых умовах. (...) Я вельмі схільны думаць, што Лукашэнка выпусціць яго перад сваёй паездкай да Папы ў верасні гэтага года альбо адразу пасля яе. Мы з Міколам аднагодкі. Вельмі спадзяюся, што мы адзначым наша 60-годдзе разам», — сказаў былы міністр міжнародных адносін Славакіі Павел Дэмеш.

## «Антымайдан Беларусь» правакуе магілёўскіх казакоў

«Радзіму абараняць не навучыліся. Ці **Пушкін для вас не Радзіма?**»

З рэзкай крытыкай прарасійскіх арганізацый Беларусі выступіла папулярная суполка «Укантакце» «Антымайдан Беларусь». Прычынай стала знішчэнне шыльды з вершамі «Паклёпнікам Расіі» з магілёўскага помніка Аляксандру Пушкіну.

«Антымайдан» назваў гэтую падзею «ганьбай «рускага свету» ў Магілёве». Абурэнне выклікала тое, што ніхто нават не паспрабаваў уступіцца за спрэчны верш Пушкіна.

Асноўная крытыка была накіраваная ў адрас казацкіх арганізацый: «Вось гэтыя крэпкія хлопцы, якія бравіруюць крыжовымі хадамі ў Магілёве і, напэўна, шчыра клянуцца ў адданасці Айчыне і Богу. Малайцы. Прыгажуны. Крыжовымі хадамі хадзіць навучыліся. А Радзіму абараняць — не. Ці Пушкін для вас не Радзіма? Ці з тэкстам «Паклёпнікам Расіі» не згодныя? Дзе вы, мужыкі? Сорамна», — напісана ў «Антымайдане Беларусь».

«Казакі засц...і згубіць рэгістрацыю», — прыходзяць да высновы невядомыя аўтары.

«Антымайдан Беларусь» — гэта суполка прыхільнікаў «рускага свету», на яе падпісана больш за 2 тысячы чалавек. Вядзецца яна на ўмовах ананімнасці. Вядома, што адным з аўтараў «Антымайдану» з'яўляўся Іван Ус, сын экс-кандыдата ў прэзідэнты Дзмітрыя Уса. Сёння мадэратарам суполкі з'яўляецца нехта «Жанн Чубуков».

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**



**Адкрыты мемарыяльны комплекс «Трасцянец»**

22 чэрвеня ў Мінску ўрачыста адкрылі мемарыяльны комплекс «Трасцянец». Цэнтрам комплексу стала 10-метровая скульптурная кампазіцыя «Брама памяці» скульптара Канстанціна Касцючэнкі. Падчас існавання канцэнтрацыйнага лагера ў Трасцянцы загінула і было забіта каля 200 тысячаў чалавек. На адкрыцці прысутнічаў Аляксандр Лукашэнка.

## У Мінску аблілі фарбай BMW X5. Магчыма, за стылізаваны трыкалор

На мыйцы кажуць, што апошнім часам у Мінску **дастаецца аўтамабілям** з расійскай сімволікай.

Аўтамабіль *BMW X5* у Мінску стаў ахвярай невядомага нападніка. Чорную машыну, якая стаяла ў сталічным двары на Ігуменскім тракце, нехта абліў белай фарбай.

Па словах кіроўцы, якія пераказвае *onliner.by*, *BMW* быў прыпаркаваны па правілах і нікому не перашкаджаў. Сябры кіроўцы выказалі меркаванне, што аўтамабіль абліла фарбай пакрыўджаная прыхільніца. А работнікі мыйкі мяркуюць, што нехта мог адрэагаваць такім чынам



на падвеску пад лабавым шклом — пацярня ў колерах расійскага сцяга. «Кажуць, дастаецца ў гэты час аўтамабілям з падобнай сімволікай: георгіеўскімі стужачкамі, налепкамі накшталт «Дзякуй дзеду за перамогу!», расійскімі сцягамі», — паведаміў кіроўца.

**Euroradio.by**

# ЕГУ: колькі зарабляе рэктар Полік?

Як выканаўца абавязкаў рэктара, ён атрымлівае прыкладна 220 тысяч еўра за год плюс 60 тысяч як кампенсацыю на пералёты і жытло.

Прэс-служба ЕГУ абвергла інфармацыю аб тым, што Полік дагэтуль не падпісаў кантракт і атрымлівае заробак, вышэйшы за прадугледжаны.

Дэвід Полік быў прызначаны рэктарам Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта 10 красавіка, больш за тры месяцы назад. Перад тым ён займаў пасаду першага прарэктара ЕГУ, а з кастрычніка 2014 года выконваў абавязкі рэктара ўніверсітэта.

Прайшла інфармацыя, што пасля прызначэння рэктарам Полік за тры месяцы так і не падпісаў працоўнага кантракта. Чаму ж?

Паводле нашай інфармацыі, Полік атрымліваў як в.а. прыкладна 220 тысяч еўра за год плюс 60 тысяч як кампенсацыю на пералёты і жытло. Ягоны заробак як рэктара мае быць меншы прыкладна на 10 тысяч еўра ў месяц.

Гэта ў шмат разоў больш за заробак рэктара найбольшага ў Літве Віленскага ўніверсітэта.

Казытлівы момант заключаецца ў тым, што ў ЕГУ Полік першапачаткова быў запрошаны ў якасці кансультанта. У яго абавязкі ў тым ліку уваходзіць аздараўленне фінансавай сітуацыі ва ўніверсітэце, які пакутуе ад хранічнага дэфіцыту сродкаў.

Наколькі нам вядома, Паўночная рада, якая кіруе даверным фондам ЕГУ, ставіла перад Кіраўнічай радай ЕГУ задачу вырашыць праблему з падпісаннем Полікам новага кантракта, аднак пакуль гэтага не адбылося.

Кіраўнік (*Chief of Staff*) офіса генеральнага сакратара Паўночнай рады ў Вільні Кенэт Броман пацвердзіў «Нашай Ніве», што сітуацыя з непадпісаннем кантракта Дэвідам Полікам мела месца ў ЕГУ.

«Паўночная рада не адказвае за кантракты супрацоўнікаў ЕГУ, гэта задача Кіраўнічай рады. Аднак Паўночную раду, як адказную за траставы фонд ЕГУ арганізацыю, надзвычай непакоіць сітуацыя, якая склалася ў дадзены момант у ЕГУ. Нядаўна я размаўляў са старшынёю Кіраўнічай рады ЕГУ Даніэлем



Таршысам, і мы пагадзіліся, што праблема будзе вырашана цягам найбліжэйшых дзён», — паведаміў «Нашай Ніве» Броман.

Прафесар Дэвід Полік атрымаў ступень доктара філасофіі ва Універсітэце Атавы (Канада) у галіне фенаменалогіі герменеўтыкі, эстэтыкі і гісторыі мастацтваў.

Да свайго пераезду ў Вільню Полік быў прэзідэнтам амерыканскіх вышэйшых навучальных установаў. Ён не гаворыць ні па-беларуску, ні па-расейску.

Яго абранне суправаджалася крытыкай непразрыстасці працэсу. Старшыня асацыяцыя выпускнікоў ЕГУ Сяргей Харытонаў апублікаваў звесткі, што на папярэднім месцы працы Полік прывёў амерыканскі каледж да фінансавага правалу, прытым забяспечыўшы неапраўдана вялікія выплаты сабе. Лідары думак з Беларусі прасілі адмяніць выбары і прызначыць новыя, з яснай канкурэнцыяй. Аднак Полік стаў рэктарам ЕГУ, нягледзячы на крытыку.

Пасля таго, як пра зацягванне з падпісаннем кантракта напісаў сайт «Нашай Нівы», прэс-служба ЕГУ даслала нам наступнае паведамленне: «Інфармацыя, якая з'явілася 17 чэрвеня ў беларускіх медыя, няправільная. На самай справе, новая дамова з праф. Дэвідам Полікам была падпісаная 3 красавіка 2015 г. Згодна з гэтай дамовай, заробак рэктара ЕГУ будзе складаць 5000 еўра ў месяц. Кіраўнічая рада ЕГУ пакідае за сабой права выплаціць рэктару ЕГУ дадатковую прэмію ў памеры да 30 000 еўра за год пасля 12 месяцаў працы», — цытуецца ў паведамленні заява доктара Даніэля Таршыса, старшыні Кіраўнічай рады ЕГУ.

**Яўген Крэйда**




## Мінгандлю закрыла кавярні «Сайгон»

Гаворка ідзе пра тры міні-кавярні ТАА «Сайгон» на рынку «Ждановічы».

«Гандлёвай інспекцыяй Мінгандлю праведзены праверкі аб'ектаў грамадскага харчавання ТАА «Сайгон», размешчаных на рынку ў Ждановічах, у ходзе якіх выяўлены факты рэалізацыі тавараў з мінулымі да трох месяцаў тэрмінамі прыдатнасці, невыканання асартыментных пералікаў, парадку кантролю якасці і бяспекі выпусканай прадукцыі, умоў яе захоўвання, неналежнага санітарнага стану аб'ектаў», — паведамляе прэс-служба.

За падобныя парушэнні праца аб'ектаў ТАА «Сайгон» ужо прыпынялася Мінгандлем у канцы лютага 2015 года. Аднак належных мер кіраўніцтва арганізацыі не прыняло, у сувязі з чым прынята рашэнне аб поўнай забароне працы трох міні-кавярань.

Былі ўлічаны і факты невыканання ліцэнзійных патрабаванняў, звязаных з захоўваннем алкагольных напояў без дакументаў, якія пацвярджаюць легальнасць іх набыцця, а таксама парушэння заканадаўства ў галіне санітарна-эпідэміялагічнага дабрабыту насельніцтва, выяўленыя ў аб'ектах ТАА «Сайгон» падатковымі і санітарнымі органамі.

Сетка в'етнамскіх кавярань была аб'ектам увагі і анекдотаў, аднак да іх усе звыклі. «Сайгон» трапіў пад увагу кантрольных органаў пасля рэзананснага журналісцкага расследавання «Комсомольской правды». Яе карэспандэнтка ўладкавалася на працу туды і расказала, як там абы-як мыюць посуд.

**Сяргей Гезгала**

## Бюджэт Прэзідэнцкага спартыўнага клуба ў 2014 годзе склаў больш за 2 мільёны даляраў

Адзначым, галоўнымі партнёрамі клуба з'яўляюцца «Беларуськалій», «Юнівест-М», «Трайпл», БелАЗ.

Да дзейнасці клуба адносіцца арганізацыя спартыўных мерапрыемстваў, аказанне дапамогі спартсменам, спартовым комплексам і базам, дабрачыннасць.

У гэтым годзе спецыяльныя стыпендыі арганізацыі атрымаюць 193 спартсмены і 27 трэнераў. Мінімальная стыпендыя — 1,4 мільёна рублёў за месяц, максімальная — 8,6 мільёна рублёў.

Нагадаем, сярэдні сын кіраўніка дзяржавы Дзмітрый Лукашэнка трэці тэрмін запар з'яўляецца старшынёй цэнтральнай рады клуба. Па статуце знаходжанне на гэтай пасадзе не абмежавана колькасцю тэрмінаў.

**Naviny.by**

## Ад туркменаў да сірыйцаў: хто з замежнікаў навучаецца ў Беларусі?

Сярод студэнтаў і магістрантаў беларускіх ВНУ доля замежных грамадзянаў у 2014/2015 навучальным годзе складала 4%. Гэта каля 15 тысяч чалавек, прычым кожны год лічба расце.

Сярод грамадзянаў якіх краін беларуская адукацыя карыстаецца найбольшым попытам?

Па-ранейшаму сярод студэнтаў і магістрантаў найбольшае прадстаўніцтва маюць туркмены. Іх налічылася 8408 чалавек (56,8% ад усіх замежнікаў). Услед у рэйтынгу ідуць грамадзяне Расіі (1580; 10,7%) і Кітая (1198, 8,1%). Цалкам спіс выглядае наступным чынам:

**Ягор Марціновіч**

| Краіна | Колькасць | |
|---|---|---|
| 1. Туркменістан | 8408 | 56,8% |
| 2. Расія | 1580 | 10,7% |
| 3. Кітай | 1198 | 8,1% |
| 4. Нігерыя | 479 | 3,2% |
| 5. Азербайджан | 347 | 2,3% |
| 6. Іран | 312 | 2,1% |
| 7. Таджыкістан | 248 | 1,7% |
| 8. Украіна | 220 | 1,5% |
| 9. Казахстан | 214 | 1,4% |
| 10. Ліван | 206 | 1,4% |
| 11. Ірак | 165 | 1,1% |
| 12. Літва | 112 | 0,8% |
| 13. Турцыя | 105 | 0,7% |
| 14. Сірыя | 94 | 0,6% |
| Іншыя краіны | 1108 | 7,5% |
| Агулам | 14796 | |

## Эстонскі адказ літоўцам: а мы рады служыць у войску!

Не так даўно ў інтэрнэце набыла вялікую папулярнасць акцыя літоўскіх мастачак, пра якую ўжо пісала «Наша Ніва» — сялзлівыя партрэты тых літоўскіх мужчын, якія не хочуць служыць у войску, як рэакцыя на ўвядзенне абавязковай службы ў Літве.

Ліга абароны Эстоніі (*Kaitseliit*) зладзіла адказ на гэтую акцыю. Ён уяўляе сабой партрэты мужчын і жанчын розных заняткаў і прафесій, якія служаць добраахвотнікамі.

Эстонцы звярнуліся да сваіх балтыйскіх суседзяў з наступным тэкстам:

«Паважаныя літоўскія сябры, Вашы 14 моцных партрэтаў мужчын, якія выказваюць свае пачуцці ў адносінах да тэрміновай службы, аказаліся насамрэч вельмі моцнымі, але, магчыма, не такім чынам, як вы планавалі.

Мы абодва маленькія, свабодалюбівыя народы, якія жывуць у небяспечным суседстве. Толькі наша рашучасць, наша любоў да свабоды і нашага ладу жыцця, наша дома і блізкіх могуць адстаяць мір і свабоду для нас і нашых дзяцей.

Для гэтага важна быць гатовым рашуча абараняць нашу свабоду.

Мы зрабілі гэтыя 16 партрэтаў, каб падтрымаць вас і сказаць: вы не павінны быць вялікім спецыялістам па ўзбраенні, вам не трэба даказваць сваю мужнасць, штурмавая вінтоўка









або гранатамёт не павінны вельмі вам падабацца. Вы проста павінны любіць свабоду!»

Ліга абароны Эстоніі дзейнічае з 1918 года. На цяперашні момант гэта добраахвотная вайсковая арганізацыя, якая ўваходзіць у склад Сілаў абароны Эстоніі. Арганізацыя мае таксама жаночае і дзіцячае аддзяленне. Агульная колькасць сяброў налічвае каля 20 тысяч чалавек.

**Зміцер Міцкевіч**

# Спявачка Руся стала голасам чыгуначных вакзалаў Беларусі

Зачытванне лічбаў ад 1 да 1000 спявачка называе «**трансавымі практыкамі**».




«Замову на вакзал мне «зліў» адзін сябра-музыка, — распавядае Руся. — Мы сустрэліся з куратарам праекта, запісалі ўзоры прамовы, і замоўца абраў мой голас».

Руся ўжо агучыла чыгуначныя вакзалы Мінска, Брэста і Гродна па-беларуску, па-руску і па-англійску. У хуткім часе яе голасам загавораць вакзалы ўсіх абласных цэнтраў. Па словах Русі, сябры пазнаюць яе голас — «рады пачаць ці завершыць сваё падарожжа ў маёй кампаніі».

Руся (Марына Шукюрава) на сёння спявае ў сваім этна-электронным праекце *Šuma*. Гурт прэзентаваў свой дэбютны альбом у ноч на 21 чэрвеня. Да 2010 года Руся брала ўдзел у рок-гурце *Indiga*, у складзе якога была названая «Рок-князёўнай» на «Рок-каранацыі» ў 2006 годзе.

**Аляксандр Арсёнаў**

# Задача, што непакоіць матэматыкаў 165 гадоў

Сфармуляваная ў 1850 годзе задача стала славутай праз сваю падманліваю прастату і падштурхнула да стварэння новага раздзела матэматыкі.

Яе ў 1850 годзе прыдумаў брытанскі матэматык Томас Кіркман. Бяскрыўдная з выгляду задача была апублікаваная ў часопісе «Нататнік лэдзі і джэнтльменаў». Умовы наступныя.

Пятнаццаць школьніц цягам сямі дзён ходзяць на шпацыр шэрагамі па тры. Трэба штодзень размяшчаць іх так, каб адна пара школьніц ніколі не сустракалася двойчы ў адным шэрагу.

Напрыклад, калі назваць школьніц лацінскімі літарамі ад A да O і ў першы дзень расставіць іх радамі ABC-DEF-..., то нельга, каб у іншыя дні A і B трапілі ў адзін шэраг, нават калі між імі будзе стаяць D, але можна, каб B ішла роўна за A ў іншым шэрагу.

Паспрабуйце спачатку вырашыць на паперы такую самую задачу для дзевяці школьніц і чатырох дзён. Паспрабавалі? Уявіце, калі іх будзе 15, а дзён — сем.

Развязаць такую задачу ў агульным выглядзе не ўдалося дагэтуль — як трэба размясціць n школьніц па k групах, каб групы з t дзяўчын не перасякаліся ў адной групе, апісаць формулай не атрымалася, хаця вядомыя рашэнні для розных набораў (n, k, t) ды наборы, што не маюць рашэння.



**Камбінаторная схема для сямі школьніц групамі па тры, набор (7, 3, 2)**

Доўгі час задача лічылася адной з самых значных праблем у камбінаторыцы і нарадзіла новы напрамак матэматыкі — камбінаторныя схемы. У 2014—2015 годзе прафесар Пітэр Ківаш з Оксфарда паказаў у адной рабоце, што рашэнне існуе для амаль любой камбінацыі, а ў другой — як палічыць прыкладную колькасць рашэння для зададзеных параметраў. Для гэтага ён ужыў не камбінаторыку, а тэорыю імавернасцей.

**Аляксандр Арсёнаў**

## Беларуская оперная спявачка выйграла прэстыжны міжнародны конкурс



У пераможным выступе на конкурсе *BBC Cardiff Singer of the World* Надзея Кучар праспявала арыю Марфы з «Царскай нявесты» Рымскага-Корсакава і стала найлепшай сярод 19 фіналістаў з усяго свету.

Дадому пераможца павязе ўзнагароду, прэмію ў 15 тысяч фунтаў і выканае кампазіцыю Джона Лана на міжнародным фестывалі класічнай музыкі *BBC Proms — 2016*.

Надзея Кучар нарадзілася ў Мінску, скончыла Мінскае музычнае вучылішча імя Глінкі і кансерваторыю ў Санкт-Пецярбургу. У 2012 годзе яна выйграла Гран-пры Міжнароднага конкурсу вакалістаў у Хертагенбасе. З 2012 года — салістка Пермскага опернага тэатра. У гэтым годзе выйграла прэмію «Залатая маска» за выкананне партыі Медэі ў пастаноўцы Паскаля Дзюсапена. У 2013 годзе яна праспявала Дзявятую сімфонію Бетховена ў канцэртнай зале Кансэртгебау і Рэквіем Вердзі з Лонданскім сімфанічным аркестрам у Нарыджы.

**Tut.by**

# БАТЭ згуляе з ірландцамі, «Дынама» — з балгарамі

Не паспела «Барселона» заваяваць тытул пераможцы Лігі чэмпіёнаў 2014/2015, як пачынаецца новы сезон у еўракубках.

У самых ранніх стадыях Лігі чэмпіёнаў і Лігі Еўропы сваіх супернікаў даведаліся беларускія клубы.

Наш ужо шмат гадоў нязменны чэмпіён, барысаўскі БАТЭ, атрымаў у пару ірландскі «Дандлок». Гэта клуб з аднайменнага горада з насельніцтвам 35 тысяч чалавек. Клуб з традыцыяй, ён быў заснаваны аж у 1903 годзе. На эмблеме каманды — тры белыя ластаўкі на чырвоным шчыце.

Мабыць, ірландцы гэта не тыя футбалісты, з якімі ў БАТЭ будуць складанасці. Першая гульня 14-15 ліпеня адбудзецца ў Барысаве, праз тыдзень — у Дандлаку.

У Лізе Еўропы салігорскаму «Шахцёру» трапіўся паўночнаірландскі «Гленавон». Справа ў тым, што ў футболе няма чэмпіянату Вялікабрытаніі, а ёсць асобныя — англійскі, шатландскі, паўночнаірландскі і валійскі. Асноўная сіла ў англійскім, а вось астатнія не такія моцныя. Мабыць, «Шахцёр» павінен без лішніх пытанняў прайсці «Гленавон».

А вось у жодзінскага «Тарпеда» супернік куды складанейшы — албанскі «Кукесі». Албанцы цяпер не падарунак, год таму БАТЭ ледзь-ледзь прайшоў «Скендэрбеу». А «Тарпеда» ў чэмпіянаце не так моцна глядзіцца, як летась.

Ну і нарэшце мінскае «Дынама» згуляе з балгарскім «Чорным Морам» з Варны. Балгарскі чэмпіянат моцны, але «Чорнае Мора» — гэта зусім не фаварыт іх першынства.

**Зміцер Панкавец**




**Меркаванне**

## А дзе ў гэтым свеце месца для Беларусі?

Піша **Сяргей Макарэвіч**.



На афішнай тумбе на сталічным праспекце Незалежнасці зачапіла не самая прыкметная афіша — гурт *Port Mone* прэзентуе свой новы альбом «*Thou*». Што за гурт — амерыканскі, англійскі? — пацікавіцца чытач. Не, беларускі. Праўда, ні з назвы трыа, ні альбома гэта не вынікае. Ну і бог з гэтымі назвамі, папікне нехта, абы музыка была харошая. Маўляў, музыка ж не мае мовы. Трыа, дарэчы, інструментальнае — без слоў. Альбом выдаваўся за мяжой.

Чаму гэтая каманда мяне так зачапіла? Прыгадаліся словы яе ўдзельніка Аляксея Варсобы ў адным з інтэрв'ю. «Трэба сказаць, што ад пачатку мы вызначылі надта жорсткія ўмовы для выдання. Наш дэбютны альбом выдаў вядомы расійскі лэйбл «Геометрія», што было для нас значна [дыск называўся «*DIP*»]. І з наступным альбомам хацелася не паніжаць планку і спрабаваць выйсці на сусветны рынак. Таму планавалі выдаць альбом у Еўропе альбо ЗША».

Насцярожвае, што музыкі адразу скіраваны ў свет. Не ў сябе, а ў свет. Канечне, можна казаць, што тут не разумеюць іх музыку, няма падрыхтаванага слухача. Калі ласка. Але я не бачу за гэтымі замежнымі назвамі Беларусь. І *Port Mone* — гэта толькі адзін з тых соцень магільшчыкаў беларускай культуры.

Я не бачу Беларусь і за англамоўнымі назвамі гуртоў *YellowBrick Road, The Toobes, IOWA, Vegetables*...

Снабізм? Спроба адзець усіх у вышыванкі? Не, толькі спроба надаць нацыянальныя каларыт.

Як не спяваюць масава па-беларуску, так і не будуць гэта рабіць проста па ўзмаху рукі. Але не трэба ператтварацца ў копіі іхніх, замежных, выканаўцаў. Хочацца «стрэліць» за мяжой, дык не выракайцеся тады каранёў. Хочацца выкарыстоўваць лацінку ў назве, чаму не ўзяць беларускі варыянт. Беларускія словы. Што сведчыла б пра адрознасць ад іхніх, замежных, выканаўцаў. Слухача трэба «браць» творчасцю, а не перайманнем чужых слоў.

Беларускія музыкі, якія спяваюць па-англійску, косяць пад амерыканцаў?

Адзін мой знаёмы грае блюз, кантры. Часта выступае ў барах. Аднаго разу мы з ім дыскутавалі наконт мовы яго песень. Ён спявае амерыканскія песні. «Чаму не пішаш па-беларуску сам тэксты?» — «Па-беларуску немагчыма спяваць блюз». Чым не міф пра непаўнавартаснасць мовы, што на ёй нельга выказваць высокія думкі. Магільшчык айчыннай культуры?

Канечне, нельга штосьці забараніць. І не трэба. Нехта хоча сам быць усё жыццё лабухам і не ўздымацца на высокую сцэну.

Дарэчы, яшчэ раз пра мову. Штогод заходзяць спрэчкі пра тое, каго з якой песняй адправіць на конкурс «Еўрабачанне» ад Беларусі. І заўжды гучаць галасы, каб гэта была песня на беларускай мове. Але пакуль да іх не прыслухоўваюцца. Між іншым жа статыстыка такая. З 63 пераможцаў на конкурсе 29 кампазіцый праспявалі на англійскай мове (для Вялікабрытаніі і Ірландыі гэта дзяржаўная мова, а пераможцаў на дзве гэтыя краіны прыходзіцца ажно 12). І яшчэ 32 былі на французскай (14), нідэрландскай (3), іўрыце (3), нямецкай, нарвежскай, шведскай, італьянскай, іспанскай (па 2), дацкай, харвацкай, сербскай (па 1). Пераможная песня спявачкі Русланы была двухмоўнай — на англійскай і ўкраінскай. А нашы арганізатары ўсё пнуцца адправіць ад Беларусі англамоўныя кампазіцыі.

Пакуль не будзе нацыянальнага каларыту ў назвах, тэкстах, музыцы, гэта і будзе перайманнем чужога. А калі за мяжой не могуць ацаніць гэтыя «закосы» пад іх культуру, навошта тады нам ацэньваць тут гэтыя копіі?

# Вікторыя Азаранка купіла дом у Каліфорніі за 7 мільёнаў даляраў



Як паведаміў амерыканскі сайт *Variety*, беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка стала ўладальніцай новага дома на Манхэтэн-Біч ў Каліфорніі. Плошча трохпавярховага дома — амаль 400 квадратных метраў, у ім пяць спальняў і пяць ванных пакояў. Купля абышлася тэнісістцы ў 7 мільёнаў даляраў. Дом пабудаваны з сучасных матэрыялаў, у ім зроблены акцэнт на вялікія шкляныя вокны і прасторныя пакоі. З вокнаў дома адкрываецца цудоўны від на Ціхі акіян.

Нягледзячы на траўму нагі, з-за якой Віка прапусціла частку сезона 2014 года, яе даходы цалкам дазваляюць рабіць такія дарагія пакупкі. Паводле ацэнак спецыялістаў, за 2012—2013 год яна зарабіла 16 мільёнаў даляраў, як на корце, так і дзякуючы рэкламным кантрактам.

На сённяшні дзень Азаранка займае 25-ы радок у сусветным рэйтынгу тэнісістак.

**Лявон Максюта**

# Хіпстары ўсё. На іх месца прыйдуць які?



Пісьменнік Дэвід Інфант апублікаваў у *Mashable* калонку пра субкультуру, што прыходзіць на змену хіпстарам. Яе ён назваў *Yuccies* (чытаецца як які ці юкі) — *young urban creatives*, што значыць «маладыя гарадскія крэатыўшчыкі». Мяркуючы па гарачых абмеркаваннях у сацсетках, Інфант рыхтык трапіў у тэму.

Аўтар адносіць сябе да крэатыўнага класу, але яго абражае, калі яго называюць хіпстарам. Ён прапануе ўдакладніць тэрміналогію. Ён які.

«Як мяне называць? — пытае Інфант. — Я 26-гадовы пісьменнік, жыву ў прыстойным раёне Брукліна. Гетэрасэксуальны белы мужчына з аднахуткаснымі роварам і вусамі. Вывучаў гуманітарныя навукі ў каледжы, маю ідэі наконт усялякага. Міленіял? Хіпстар? Япі? Усё гэта разам ці нічога з таго».

Які, як ён прапануе называць падобных да сябе, гэта народжаныя ў спажывецкім камфорце людзі, якія вераць у сілу адукацыі і перакананыя ў тым, што трэба не толькіісці за сваёй марай, але і атрымліваць за гэта грошы.

Які, безумоўна, хочуць разбагацець, але яшчэ больш хочуць разбагацець і застацца творча незалежнымі. І хочуць зарабляць на ўласных ідэях.

**Аляксандр Арсёнаў**

# Вядомая актывістка па барацьбе за правы каляровых у ЗША аказалася белай, якая фарбавала скуру, каб выглядаць чорнай

У ЗША набірае абароты скандал вакол адносінаў цемнаскурага і белага насельніцтва. Аднак калі папярэднія гучныя выпадкі былі звязаныя ў асноўным з нематываваным гвалтам беласкурых паліцэйскіх супраць цемнаскурых амерыканцаў, то гісторыя Рэйчал Долезал (*Rachel Dolezal*) даволі незвычайная.

37-гадовая Долезал была вядомым у штаце Вашынгтон актывістам грамадзянскай супольнасці і займалася абаронай правоў цемнаскурых.

Рэйчал Долезал вяла актыўнае жыццё і была паважанай асобай да мінулага тыдня, калі яе бацькі Рутан і Лоўрэнс Долезал заявілі, што Рэйчал насамрэч... белая і ў яе жылах не цячэ ні кроплі афрыканскай крыві, а яе продкі паходзяць з Чэхіі, Швецыі і Германіі. У СМІ таксама трапілі фотаздымкі маладой Рэйчал, з якіх глядзіць беласкурая і светлавалосая дзяўчына.

Выявілася, што Рэйчал Долезал карысталася касметыкай, каб зрабіць сваю скуру больш цёмнай, фарбавала і закручвала валасы.

У дадзены момант звольнілася з Нацыянальнай асацыяцыі садзейнічання прагрэсу каляровага насельніцтва горада Спакан, а Універсітэт Вашынгтона скасаваў кантракт з ёю.



**Яўген Крэйда**

# Такім Шэрлака Холмса вы яшчэ не бачылі



93-гадовы стары, які на вачах страчвае і памяць, і здольнасць хадзіць, але не страчвае вострыя розум і ўменне за дэтэктыўнай загадкай убачыць чалавечую гісторыю і драму чалавечых адносін.

Такім паўстае герой новага брытанскага фільма «Містар Холмс» у выкананні патрыярха брытанскага кіно і тэатра Іэна Макелена.

Колькасць фільмаў пра вялікага сышчыка пераваліла за сотню. Першы быў зняты 100 гадоў таму — у 1916 годзе.

Няма недахопу і ў яркіх экранных увасабленнях Холмса. Постсавецкі глядач захоўвае вернасць сапраўды цудоўнаму Васілю Ліванаву. У англа-амерыканскім кіно ў гэтай ролі спрабавалі сябе самыя гучныя зоркі, а хрэстаматыйным і для многіх непераўзыдзеным на радзіме Холмса лічыцца Джэрэмі Брэт. Ён зняўся ў 42 фільмах тэлесерыяла «Прыгоды Шэрлака Холмса» (1982—1994).

У апошняе дзесяцігоддзе для гледачоў маладых Шэрлак Холмс — гэта Роберт Даўні-малодшы і, вядома ж, Бенедыкт Камбербатч, «Шэрлак Холмс XXI стагоддзя».

93-гадовы Холмс адпраўляецца на адпачынак у вясковы дом у графстве Сусэкс, дзе ён разводзіць пчол і жыве са сваёй эканомкай і яе дапытлівым падлеткам-сынам.

Прыхільнікі традыцыйнага Шэрлака Холмса могуць быць расчараванымі. У фільме «Містар Холмс» няма не толькі дынамічнага прыгодніцкага дзеяння, але і скрупулёзнай інтэлектуальнай дэдукцыі.

Такога Холмса мы яшчэ не бачылі...

**«Бі-бі-сі»**

Кіно

# Лабірынты свядомасці

Галаваломка
**Жанр:** мультфільм, драма, камедыя.
**Рэжысёр:** Піт Доктэр
**У ролях (агучка):** Льюіс Блэк, Міндзі Кейлінг, Біл Хейдэр, Эмі Полер, Філіс Сміт, Рычард Кайнд, Кейтлін Дзіас
ЗША, 94 хв.
**Адзнака:** 9

Райлі — 11-гадовая школьніца з Мінесоты. Яе паводзіны вызначаюць пяць базавых эмоцый: Радасць, Смутак, Страх, Гнеў і Грэблівасць. Эмоцыі жывуць у свядомасці дзяўчынкі і кожны дзень дапамагаюць ёй спраўляцца з праблемамі, кіруючы ўсімі яе ўчынкамі. Раптам высвятляецца, што Райлі разам з бацькамі пераязджае з роднага ўтульнага гарадка ў шумны Сан-Францыска. Кожная з эмоцый лічыць, што менавіта яна найлепш ведае, што трэба рабіць у гэтай няпростай сітуацыі, і ў галаве дзяўчынкі наступае блытаніна. У спробах выправіць сітуацыю Радасць, якая дасюль верхаводзіла сярод эмоцый, разам са Смуткам трапляе ў лабірынт доўгачасовай памяці. Цяпер яны зніклі са свядомасці Райлі, пакінуўшы там толькі Страх, Гнеў і Грэблівасць.

Новы мультфільм студыі *Pixar*, вядомай надзвычай якаснымі работамі, прыўздымае завесу таямніц чалавечай псіхікі. Стваральнікі ўзялі тэму, так ці інакш цікавую усім, — як эмоцыі кіруюць штодзённым жыццём. Рэжысёр і сцэнарыст Піт Доктэр («Карпарацыя пачвараў» (2001), «Уверх» (2009) — прэмія «Оскар»-2010 за найлепшы анімацыйны фільм) узяў за сюжэтную аснову факты сваёй біяграфіі.

Доктэру ў свой час таксама давялося пераехаць з Мінесоты ў Сан-Францыска, дзе размешчана штаб-кватэра *Pixar*, а натхненне яму прынесла дачка: «Гэты мультфільм пачаўся з назірання за маёй дачкой. Яна была вельмі жвавым і радасным дзіцём, але калі ёй споўнілася 11 гадоў, яна стала больш спакойнай і стрыманай. І я падумаў: «Гэта дзіўна. Вось бы даведацца, што адбываецца ў ейнай галаве». Пасля кансультацыі з псіхолагамі высветлілася, што ўсяго можна налічыць да 27 эмоцый. Але асноўных — шэсць: радасць, смутак, страх, гнеў, грэблівасць і здзіўленне. Страх і здзіўленне вырашылі аб'яднаць, і ў галаве дзяўчынкі пасяліліся пяць эмоцый-персанажаў: Гнеў адказвае за пачуццё справядлівасці, Страх — за бяспеку, Грэблівасць — за густ і пачуццё меры, Радасць — за цягу да жыцця, Смутак — за спачуванне.

Складаную структуру псіхікі стваральнікі раскрылі паступова і яскрава. Тут ёсць рознакаляровыя сферы памяці, дзе ўтрымліваюцца ўспаміны. Яны складаюцца ў лабірынты доўгачасовай памяці, а базавыя ўспаміны ўтвараюць Выспы асобы — яркія бакі асобы дзяўчынкі: Сям'я, Сяброўства, Гарэзлівасць. Асобную прастору займаюць Уяўленне і Падсвядомасць, а таксама пакоі Абстрактнага мыслення.




Стужка будзе цікавая і дзецям, і іх бацькам. У сюжэце знайшлося месца не толькі забавам, але і сумным, неадназначным момантам жыцця дзіцяці, якое пакрысе становіцца падлеткам.

**Настасся Уласава**

**Фотафакт**



**Як паркуюцца ў Мінску госці з Расіі**

Фота зроблена ў нядзелю на досыць загружанай стаянцы ля гіпермаркета *ProStore* на вул. Убарэвіча ў Мінску. Адзін — на тры стаянкачныя месцы адразу! Што ж, пераможцаў не судзяць — ён жа з георгіеўскай стужкай прыехаў.

**Алесь Герасіменка, Гатава**

# «50 тысяч салдат — і вашай Беларусі не будзе»

Ваша выданне я чытаю больш за 5 гадоў, сайт — амаль кожны дзень, дзякуй Вам вялікі за такую выдатную Газету!

Пішу Вам ад безвыходнасці, хутчэй каб проста выказаць хоць трохі свае эмоцыі. Справа ў тым, што па розных прычынах мне даводзіцца бываць у Расіі (Маскве) часцей за 2 разы на год. Даўно для сябе на падсвядомым узроўні вырашыў: Нешта не тое, нешта не так з гэтай краінай і людзьмі. Апошні год, прыязджаючы сюды, я заўважаю, што мяне літаральна кідае ў пот і ванітуе, тут усё яшчэ «Крым-наш», Пуцін і Сталін-герой.

Людзі, якія дазнаюцца, што я з Беларусі, маюць дваякае ўяўленне пра нас, ставяцца, я б сказаў, з асцярогай. З 100 маладых людзей (любога полу) 90 палічаць анексію Крыма нормай. Многія насмешліва кажуць пра бульбу і 50 тысяч расійскіх салдат, якія вырашаць за суткі гістарычную несправядлівасць з намі.

Калі шчыра, сэрца разрываецца ад болю і трывогі. Шмат чаго я тут не пералічыў, але, думаю, Вы і так усё ведаеце.

**Юнак, mail.ru**

# Праўда ў хлусні

Гісторыя бывае навукай суб'ектыўнай, калі падладжваецца пад свой час і уладу. А гэта прыводзіць да скажэння і падтасоўкі фактаў. Скажаюцца факты ў тым ліку і падчас вывучэння праблем Вялікай Айчыннай вайны. На адным асобна ўзятым прыкладзе я паспрабую даказаць гэту здагадку.

З падручнікаў гісторыі ўсе ведаюць пра ленд-ліз. Нас калісьці вучылі, што ён даў усяго каля 4% ад агульнай вытворчасці зброі і матэрыялаў у СССР у гады вайны. Мізэрная лічба! Але...

Вось, аказваецца, за гады вайны пастаўкі па ленд-лізе авіябензіну склалі 51,5% ад савецкай вытворчасці (дадзеныя з кнігі гісторыка Б.В.Сакалова «Другая сусветная вайна» (Масква «АСТ-Прэс кніга», 2005 г.); пастаўкі аўтамабіляў — 150% савецкай вытворчасці; 56,5% ад агульнай вытворчасці чыгуначных рэек СССР; 240% савецкай вытворчасці паравозаў і 1100% вытворчасці электравозаў; 53% ад савецкай вытворчасці выбуховых рэчываў (працэй кажучы, пораху і тратылу); 82,5% вытворчасці медзі; 120% ад савецкай вытворчасці матацыклаў і гэтак далей. Уражваюць лічбы? Калі на іх абапірацца, то можна лёгка даказаць, што СССР толькі таму і перамог у вайне, што атрымліваў дапамогу ад ЗША і без яе быў асуджаны. Самае смешнае, што і гэтыя лічбы, і 4% долі ленд-лізу дакладныя. Проста падыход да іх процілеглы.

За час вайны Савецкі Саюз вырабіў 15 штук электравозаў, а атрымаў па ленд-лізе 165 адзінак — адгэтуль лічба 1100%. Некарэктна. Згодзен. Падобная сітуацыя і па іншых прыведзеных тут лічбах.

Калі добра разабрацца, мы разумеем: сапраўды ленд-ліз у рэальным вылічэнні не такі вялікі. Але прыведзеныя вышэй лічбы і высновы зроблены зыходзячы з метадалогіі савецкай і расійскай гістарыяграфіі. Калі б перад афіцыйнымі гісторыкамі была пастаўлена задача даказаць вырашальную ролю ленд-лізу ў перамозе над Нямеччынай, яны лёгка б гэта зрабілі. Агульныя дадзеныя «замаўчалі» б, а асобныя (вышэй прыведзеныя) раздзьмулі б да памераў бясспрэчнай ісціны. І мы б, дарагія таварышы, усяму гэтаму верылі б. А як жа — у падручніку напісана!

А праўда ж у іншым — ЗША пастаўлялі ў СССР тое, чаго тут бракавала. Бракавала аўтамабіляў — пастаўлялі (375 тысяч грузавікоў і 50 тысяч уседарожнікаў, што зрабіла армію мабільнай, нават Мікаян прызнаваў, што без тых аўтамабіляў вайна зацягнулася б на год-два). Танкаў хапала — пастаўлялі менш. Але паставілі гіганцкую колькасць каляровых металаў.

Мог бы СССР перамагчы без МіГаў і ЛаГГаў? Не. А мог бы перамагчы без 50% гаручага да гэтых самалётаў? Не. Вось на што трэба расплюшчыць вочы — на тое, што Перамога супольная! Не СССР перамог фашызм. Не ЗША перамаглі Нямеччыну. Мы разам перамаглі!

Гэта цяжка прызнаць. Для гісторыкаў, якія абаранілі дысертацыі на падкартоўках, немагчыма. Уладам нявыгадна. Народу крыўдна. Нам не патрэбна праўда? Нам патрэбен прыгожы міф? Не, нам трэба праўда. Гісторыя — настаўніца жыцця, кажа мудрае выслоўе.

**Алесь Рыбачонак, Міханавічы (Мінскі р-н)**

# Што рабіць «дармаеду», за што пражыць?

Аднойчы мой родны чалавек выратаваў жыццё п'янага, выштурхнуўшы яго з праезнай часткі ажыўленай магістралі, на якой той стаяў, апусціўшы галаву. Сігналілі машыны. Мой тата кінуўся ратаваць незнаёмага яму чалавека пад колы транспарту з рызыкай для свайго жыцця. Для мяне гэта быў вялікі жыццёвы ўрок.

Кіраўніком дзяржавы прыняты ўказ «аб барацьбе з дармаедамі» (прыблізна так ён гучыць), згодна з якім непрацоўныя людзі павінны тры мільёны шэсцьсот тысяч падатку на год.

Сапраўды, ёсць прымаўка «Хто не робіць, той не есць». Але ў цяжкім становішчы непрацоўнага, абяздоленага можа апынуцца кожны. У народзе гэта ведалі, дапамагалі сваім людзям, суседзям у розных працах, існуе ў беларускай мове і назва гэтай дапамозе — талака. Дапамагалі ўкраінцам у часы сталінскага галадамору, хавалі з рызыкай для жыцця яўрэяў у вайну ад фашыстаў і г. д.

А што з цяперашнімі малазабяспечанымі, няшчаснымі, беспрацоўнымі? Гэтыя людзі не забойцы, не зладзеі, не распрадаюць дзяржаўную маёмасць, народныя нацыянальныя багацці (калійныя солі, драўніну і г.д.), не скарачаюць людзей, не падымаюць цэны…

Аднойчы нехта сказаў: «Народ цікавіцца, адкуль у іх грошы, калі яны не працуюць!» Высвятленне такіх пытанняў культывуе ў людзях зайздрасць.

За што бедныя жывуць? А ці вартае працы чыноўнікаў, міліцыі, дэпутатаў гэтае пытанне? Ці не варта было накіраваць дзяржаўныя грошы на больш важныя справы?

Хто яны — людзі, што часова не працуюць: каму не даюць працу па спецыяльнасці, беспрацоўныя і г.д.; п'яніцы або людзі з дрэнным здароўем; маці, што выхоўваюць дзяцей, і хатнія гаспадыні; звольненыя, якія адстойваюць правы ў судзе.

Кожны мае права на свой выбар, так я думаю. Людзі павінны працаваць, калі могуць гэта рабіць.

І галоўнае: беспрацоўныя таксама плацяць падаткі. Усе плацім прыблізна аднолькавыя падаткі: і працоўныя, і беспрацоўныя. Чаму так? Бо ў любой прададзенай паслузе, любым тавары закладзеныя падаткі.

І багатыя, і бедныя, ідзём у краму і купляем адзін і той жа хлеб. У цану тавару закладзены і ўсе заробкі працоўных, і адлічэнні ў сацыяльныя фонды, і пенсійныя адлічэнні, і ўсе падаткі. Гэта азначае, што беспрацоўныя аплачваюць частку выдаткаў на фінансаванне школ, бальніц, заробкі міліцыі. Гэта няпраўда, што беспрацоўныя ў фінансаванні дзяржаўных выдаткаў не ўдзельнічаюць.

Цяпер пытанне: як абараніцца ад несправядлівых законаў? Здаецца, парушаны адзін з артыкулаў Канстытуцыі аб роўнасці правоў і абавязкаў усіх грамадзян. Беспрацоўныя не павінны выплачваць падаткаў больш, чым працоўныя.

«Ад сумы і ад турмы не заракайся» — гаворыць прымаўка. Кожны можа аказацца ў адзіноце, у стане пацярпелага, застацца без працы. Пра гэта сказаў адзін з нашых класікаў, паэт-прарок Янка Купала:

Падсякайце тое дрэва,
Што ў корні ўсыхае;
Не ўважайце таго сэрца,
Што жалю не мае.

Большая частка апытаных падтрымлівае дэкрэт і змены ў пенсійнае заканадаўства і вітае барацьбу з «дармаедамі», якія псуюць карцінку багатага і бесклапотнага жыцця ў Беларусі. У беларусаў ёсць прымаўка: «Сыты галоднаму не спагадае». Наўрад ці навяўведзенні, мною ўзгаданыя, будуць адмененыя. Але як абараніць свае правы? Можа, кваліфікаваны юрыст падкажа, якім чынам магчыма абараніць свае правы?

**Марыя Разуваева, Мінск (Кантакт ёсць у Рэдакцыі.)**

# Адроджаны Крыж Еўфрасінні Полацкай вандраваў у Паазер'і



З 8 па 18 чэрвеня святыню пранеслі па 11 адміністрацыйных цэнтрах Полацка-Глыбоцкай епархіі.

Гэта падзея стала складнікам усіх мерапрыемстваў, прысвечаных Дню памяці прападобнай (5 чэрвеня) і прымеркаваных да 1000-годдзя смерці святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра. Агульнаепархіяльны Хросны ход з Крыжам Еўфрасінні Полацкай пачаўся 8 чэрвеня пасля Боскай літургіі ў Спаса-Еўфрасіннеўскім жаночым манастыры. У гэты ж дзень святыня была дастаўленая ў Наваполацк і далей, да 18 чэрвеня, будзе пранесеная па ўсіх раёнах, якія ўваходзяць у Полацка-Глыбоцкую епархію.

У Глыбокае святыня прыбыла з Шаркаўшчыны.

Яе сустрэча адбылася а 15-й гадзіне на тэрыторыі адроджанага на новым месцы (колішні Беразвецкі манастыр выкарыстоўваецца сёння пад пенітэнцыярную ўстанову) Беразвецкага жаночага манастыра ў гонар Архістратыга Божага Міхаіла, а затым усе прысутныя Хросным ходам адправіліся ў кафедральны сабор Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы ў Глыбокім, дзе а 16-й распачалося Падзячнае набажэнства. Пасля чаго кожны змог пакланіцца Крыжу вялебнай Еўфрасінні Полацкай.

Святыня ў галоўным праваслаўным храме Глыбокага прабыла да наступнага дня — 15 чэрвеня.

**Уладзімір Скрабатун, Глыбокае**

**Прыватныя абвесткі**

**Віншуем Алену Авіцюк і Яўгена Прэйгермана** з узяццем шлюбу! Згоды, ладу, кучу дзяцей вам! Сябры



**Ад рэдактара**

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.
У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.
Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**

# Справа Аляксея К.: за што інтэрнэт-прадпрымальніку могуць даць 7 гадоў калоніі

«Я быў бы рады плаціць падаткі, калі была б такая магчымасць».

Адначасова з гучнай справай Віктара Пракапені (заснавальніка ІТ-кампаній *Viaden Media* і *EXP (Capital)*, якога абвінавачваюць у няслаце падаткаў) ідзе звязаная з ёй менш гучная, але не менш значная справа. Пракурор патрабуе асудзіць прадпрымальніка Аляксея Камка, арыштаванага ў студзені 2014 года, на 7 год калоніі строгага рэжыму за незаконную рэкламную дзейнасць у інтэрнэце.

«Я быў бы рады плаціць падаткі, калі была б такая магчымасць, — кажа Аляксей Камок. — Тады я не мог зазірнуць на дзесяць год наперад і пабачыць, што за сваю дзейнасць, да якой дзяржаве на той момант не было ніякай справы, я стану старажылам на Валадарцы».

Аляксея Камка абвінавачваюць у тым, што ў 2006—2008 гадах у складзе групы асоб (разам з Пракапенем, сцвярджае следства) ён размяшчаў у інтэрнэце сайты і рэкламу без дзяржаўнай рэгістрацыі і атрымаў ад таго прыбытак у памеры $650 тысяч. Таксама яго абвінавачваюць у распаўсюдзе парнаграфіі (дзве спасылкі на форуме ў 2005 і 2008 гадах).

Следству стала вядома, што вясной-летам 2007 Аляксей Камок атрымліваў адзін-два разы на месяц доступ да рахунку афшорнай фірмы на Гібралтары з IP-адраса, што належаў кампаніі *Viaden Media*, знаходзіўся (па звестках мабільнага аператара) побач з банкаматам, з якога здымаліся грошы з таго рахунку, і часта заставаўся на працы пасля 18 гадзін вечара.

Камок адмаўляе абвінавачанні. Прызнае толькі атрыманне незаконнага прыбытку ў памеры $131 тысячы, за што ўжо кампенсаваў дзяржаве 356,9 млн рублёў.


DEV.BY

Апошняе абвінавачанне тычыцца размяшчэння ў інтэрнэце рэкламных спасылак і банераў у 2005—2012.

Прадпрымальнік сцвярджае, што спачатку нават спрабаваў легалізаваць прыбытак, але атрымаў параду адкрыць дабрачынны рахунак, пералічыць туды грошы і напісаць заяву пра тое, куды ён збіраецца іх патраціць. Такая хітрая працэдура заняла б паўгода, Камок таго не зрабіў.

Як сцвярджае Камок, яму неаднаразова прапаноўвалася агаварыць Віктара Пракапеню, іначай яму прыйдзецца «доўга сядзець». З Пракапенем яны былі проста знаёмыя, пэўны час Камок працаваў у кампаніі Пракапені *Viaden Media*, сцвярджае абвінавачаны.

Многія працаўнікі ІТ-сектара крытыкуюць арышт Пракапені і Камка. Нават калі гэтыя людзі не сплацілі падаткаў, досыць спагнаць грошы, кажуць крытыкі. Непрадуктыўна трымаць у турмах настолькі крэатыўных людзей, мяркуюць яны. Гэта можа сапсаваць інвестыцыйную рэпутацыю Беларусі. А айцішнікі могуць баяцца адкрываць новыя сферы зараблення грошай, заканадаўчая база адносна якіх яшчэ не склалася.

**Алесь Арсёнаў, Сяргей Гезгала**

# Як суд «раздзеў» былога чыноўніка і пакінуў яго вінным дзяржаве

Намеснік міністра лесу застаўся без пасады і без жытла.

У Мінскім абласным судзе скончыўся працэс над былым першым намеснікам міністра лясной гаспадаркі Фёдарам Лісіцам. Яго прызналі вінаватым у перавышэнні ўлады і службовых паўнамоцтваў. І прысудзілі да 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму і вялізнай кампенсацыі. Ён павінен кампенсаваць 1,13 мільярда рублёў (каля $74 тысяч) нанесенай шкоды навакольнаму асяроддзю і 56,7 мільёна дзяржпошліны.

Суддзя Дзмітрый Язвінскі тры гадзіны зачытваў сваё рашэнне. Ён падрабязна агучыў незаконную схему, па якой Лісіца атрымаў участак пад катэдж у Салігорскім раёне.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН.

У 1986 годзе 23-гадовы Фёдар Лісіца пачаў працаваць ляснічым у Яскавіцкім лясніцтве Старобінскага лясгаса. У сакавіку 1993 ён звярнуўся ў сельсавет з заявай аб выдзяленні зямлі для пабудовы дома ў вёсцы Яскавічы. Атрымаўшы згоду, малады ляснічы перадаў выпіску з рашэння ў архітэктурна-планіровачнае бюро Салігорскага райвыканкама, каб атрымаць дазвол на будаўніцтва. Толькі ніхто не звярнуў увагу, што тая зямля належыць лясному фонду і ніяк не ўваходзіць у межы вёскі. Больш за тое, Лісіца звяртаўся не ў Яскавіцкі сельсавет, а ў Доўгаўскі, які не мог распараджацца зямлёй.

Тым не менш Лісіца атрымаў дазвол і пабудаваў двухпавярховы катэдж (294 м²). Дадаткова, па меркаванні суда, Лісіца незаконна завалодаў яшчэ суседнім, 0,7 га, надзелам пад агарод. На судзе ж высветлілася, што 0,25 га пад сядзібай знаходзяцца ў водаахоўнай зоне ракі Морач.

Каб легалізаваць выдзяленне зямлі, Лісіца ўжо на пасадзе дырэктара Старобінскага лясгаса ў красавіку 2005 выключыў участкі з ляснога фонду. Хоць яшчэ з 1998 года толькі прэзідэнт можа зрабіць такую аперацыю.

30 верасня 2014 Салігорскі райсавет ранейшае рашэнне сельсавета адмяніў. Цяпер катэдж у Яскавічах знаходзіцца пад арыштам. Калі цягам месяца родныя Лісіцы не сплацяць шкоду, дом канфіскуюць. У ім, дарэчы, жыве былая жонка Лісіцы. Сам экс-чыноўнік сваёй віны на судзе не прызнаў.

Яшчэ адзін эпізод, па якім абвінавачвалі Лісіцу, тычыцца другога катэджа ў в. Тычыны. У канцы 2000-х чыноўнік даў загад выдзеліць участак пад будаўніцтва ведамаснага жытла. Аднак пасля будынак не ўвялі ў эксплуатацыю як службовае жытло, каб можна было яго прыватызаваць. Дом на 252 м² пабудаваў лясгас, якім кіраваў Лісіца. Дырэктар спачатку засяліўся, а пасля стаў у чаргу як чалавек, які мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. І прыватызаваў дом.

Зрэшты, падчас суда пракурор адмовіўся ад гэтага эпізода. Выявілася, што яшчэ раней было прынята рашэнне аб перадачы дома Салігорскаму лясгасу. Фёдар Лісіца застаўся без жылплошчы і без пасады.

**Сяргей Макарэвіч**

## Вышук



**Прысабечыў кватэры**

28-гадовага Рыгора Шаўлоўскага падазраюць у махлярстве. Падманам ён завалодаў трохпакаёўкай у Мінску і кватэрай у Смалявічах. Хто пацярпеў ад гэтага чалавека ў Смалявіцкім раёне, звяртайцеся ў Следчы камітэт на: (01776) 5-43-02, (029) 772-42-37.

## Сцісла

**У аварыі пацярпела дзевяць чалавек**

Каля пасёлка Мірны ў Магілёўскім раёне 21 чэрвеня 30-гадовая жанчына на «Пежо» выехала на сустрэчку і сутыкнулася з «Фалькссваген-Шаранам». Пасажыр «Пежо» 1961 года нараджэння загінуў на месцы. Іншыя пасажыры, а гэта дзевяць чалавек, шпіталізаваны. Сярод іх трое дзяцей — 2006, 2010 і 2014 гадоў нараджэння.


СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ.

**Порна праз мабільны…**

Жыхарку Барысава 1973 года нараджэння будуць судзіць за выраб і распаўсюд парнаграфіі. Жанчына адаслала праз праграму *Viber* жонцы свайго каханка відэа з удзелам каханка і падпісала: «Пазнаеш?». Так яна хацела адбіць мужчыну сабе. Атрымальніца паведамлення звярнулася ў міліцыю. На сёння сямейная пара памірылася. Але экспертыза прызнала, што відэа ўтрымлівае элементы парнаграфіі. Аўтарцы паведамлення пагражае ад 2 да 4 год калоніі.

**…і «Укантакце»**

А 51-гадовы жыхар Баранавіч асуджаны за захоўванне і распаўсюджванне відэазапісаў парнаграфічнага зместу. У калоніі ён правядзе год (яшчэ адзін год скінулі па амністыі). Мужчына скапіраваў з інтэрнэту чатыры парнаграфічныя відэаролікі і размясціў іх на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы «Укантакце».

**Пакрыўджаны бацька падпаліў дом з дзецьмі**

17 чэрвеня ў міліцыю звярнулася 21-гадовая жыхарка вёскі Балашы Вілейскага раёна. Яна паведаміла, што яе муж падпаліў дом з малымі дзецьмі. Высветлілася, што ў гэты дзень паміж мужам і жонкай адбылася сварка, пасля якой мужчына абліў вугал хаты бензінам і падпаліў. Убачыўшы, што жонка стала выклікаць міліцыю, затушыў агонь. Безадказны бацька затрыманы за адміністрацыйнае правапарушэнне.

**Кантрафактны алкаголь хлынуў з Расіі**

Па інфармацыі МУС Беларусі, за 2014 год «шэрая» гарэлка на 10% скарацілa продажы айчыннага алкаголю. Сёлета гэта лічба ўжо складае 26%. Летась з нелегальнага абароту канфіскавалі больш за 260 тысяч літраў спіртнога. За пяць месяцаў 2015 — 525 тысяч літраў. Найбольш кантрафакту ідзе з Расіі. Паводле спецыялістаў, ценявы рынак алкаголю ацэньваецца ў $200 мільёнаў за год.

**КМ, АА**

Аўтар «Падарожжаў дылетанта» Юры Жыгамонт адказаў на пытанні карэспандэнта «Нашай Нівы».

# Чамадан энергетыкі цудоўных мясцін

**— Ваш вобраз дылетанта стаў папулярным. Вы яго граеце альбо гэта Вы і ёсць?**

— Канечне, ёсць я. Яшчэ да з’яўлення праграмы я выпраўляўся ў гэтыя падарожжы. Хадзіў у архівы, сам у іх займаўся, склаў свой радавод. Я скупляў усе кніжкі па гісторыі, якія тады выходзілі.

**— Ваша праграма — адна з нешматлікіх беларускамоўных на дзяржаўным тэлебачанні…**

— Я не толькі па-беларуску размаўляю! Я, добрасумленны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, валодаю дзвюма дзяржаўнымі мовамі. Чаму іншы чалавек нядобрасумленна ставіцца да закона аб двухмоўі? Калі двухмоўе, то добра, давайце 50 на 50. Але ж нельга так, што скрозь пануе адна мова, прытым мова суседняй дзяржавы.

У гісторыі шмат чаго было. Адзін час у нас толькі папольску размаўлялі. І дзе цяпер пачуеш польскую мову? Мова беларуская — мова сонца. Яна з’явілася з першымі прамянямі сонца, і пакуль сонца свеціць на гэтай зямлі, яна будзе жыць.

**— У Вашай перадачы цэнзура ёсць?**

— Мне маіх тэкстаў пакуль яшчэ не вярталі. Я ж не маню там, не кажу няпраўды, я расказваю нашу гісторыю такой, якой яна была.

**— У рэдакцыі мяне папрасілі спытаць: што ў Вас у чамадане?**

— Расказваю. Прыязджаеш ты ў вёску, а там свая энергетыка, свая атмасфера. І, пакідаючы гэтую вёску, я бяру ў жменьку гэтую атмасферу і складаю сабе ў чамадан. Там у мяне такі архіў энергетыкі цудоўных мясцін. А што, усе думаюць, што я ў чамадане нашу пляшку самагонкі і кавалак сала з цыбуляй?

**— Менавіта так!**

— Такое таксама бывае. Што дадуць, тое і пакладу ў чамадан *(усміхаецца)*.

**— Вас пазнаюць у вёсках?**

— Так, пазнаюць. Бывае, што спачатку пачынаем здымаць, пад’язджае міліцыя, але як толькі бачаць мяне з чамаданам — ніякіх пытанняў, толькі хочуць даведацца, калі перадача будзе.

**— Што здымаеце цяпер?**

— На тэлебачанні адпачынак. Да восені новых праграм не будзе, ідуць паўторы. А я цяпер чытаю Біблію на беларускай мове, каб выдаць дыск — аўдыёкнігу. Трэба, каб Біблію паслухаў кожны чалавек. Гэтая кніга прайшла тысячагоддзі. Гэта некамерцыйны праект, мяне папрасілі дапамагчы — і я згадзіўся.

**— Вы вернік?**

— Я веру ў Бога і стаўлюся да ўсіх рэлігій абсалютна аднолькава. Ні Хрыстос, ні Майсей, ні Магамет, ні Крышна, ні Буда — не вучылі злу. І любіць бліжняга свайго — гэта любіць чалавека любой канфесіі. Не трэба жыць як звяры. Ты не з’ясі — цябе з’ядуць. Цяпер у нашым свеце, на жаль, такое ёсць, але ж нельгаператварацца ў жывёліну нейкую.

**— Бібліяй будзеце займацца ўвесь адпачынак? Ці маеце яшчэ якія планы на лета?**

— Ды тут на вечар цяжка планы складаць. Але я ўжо даўно хацеў паехаць у вёску, там трава ўжо вырасла, трэба пакасіць, а то яна потым паляжа і касіць будзе цяжка. А я ўсё ніяк не магу заехаць.

**— Касою косіце?**

— Канечне! Заўсёды ездзіў з бацькам на пакос. Раней у калгасе трэба было цягнуць квіток, на якім быў пазначаны ўчастак, дзе ты косіш. Памятаю, мы аднойчы з бацькам прыехалі на ўчастак, сталі, і тут я гляджу, што ў бацькі слёзы пацяклі. Я пытаюся, што такое, а ён кажа, што калісьці гэты ўвесь луг быў нашай зямлёй — майго прадзеда Жыгамонта, а нам цяпер трапіла касіць з краю гэтага лугу, у карчах. І дадаў: «Эх, камунякі!» Страшэнна не любіў камуністаў. Вось тады я і пачаў цікавіцца, хто былі мае продкі, дзяды, прадзеды. Я тады ў клас пяты-шосты хадзіў.

**— То бок на адпачынак за мяжу, каб на пляжы паляжаць, Вы не ездзіце?**

— Я б з задавальненнем, але, як кажуць палякі, «nie ma pieniędzy». Буду адпачываць у вёсцы Дзямідаў Нараўлянскага раёна. Рэчка Славечна побач, класная рыбалка там: самы, шчупакі, язі, карасі, уюны ёсць.

Зямля, дзе нарадзіўся, дае моцны зарад. Бывае, у Менску цяжка робіцца — еду ў вёску. Два-тры дні — і абсалютна зараджаны. Пойдзеш на могілкі, дзе продкі твае ляжаць, паходзіш у дубняку, да рэчкі выйдзеш. Продкі даюць сілу. Ад каранёў адарваўся, ад Бога адарваўся — усё, прапаў. У нас моцныя карані, нашыя продкі заклалі нам моцны фундамент.

**— А мы яго нішчым.**

— Выходзіць, так. Балюча ад таго, што не можаш супраць гэтага нічога зрабіць. Б’ешся-б’ешся, а не можаш зрабіць, каб не нішчылася твая гісторыя, твая мова. Таму цяпер трэба проста рабіць тое, што ты можаш зрабіць для Беларусі, а не проста біцца аб сцянку. І я ведаю, што вынік будзе жыць у вечнасці. А калі жыць сённяшнім днём, дык ідзі крадзь тады! Бога няма, продкаў няма — што табе перашкаджае? Пайшоў, скраў, ды жыві! А калі чалавек жыве вечнасцю, то ён ведае, што душа яго вечная і зямля вечная. Нас не было, а лес быў. Мы памром, а лес застанецца.

**— Вы так натхнёна расказваеце аб нашай краіне. Як гэта давесці замежнікам, каб турыстаў паболела?**

— У нас шмат на чым можна рабіць турыстычны бізнэс. Дзе ёсць такія лясы, балаты і пушчы, як у нас? Некаму цікавае мора, а некаму — лясы і рэчкі. Да нас прыязджалі італьянцы. Мы завезлі іх у балота, яны палавілі ўюноў, пахадзілі там. Столькі ўражанняў было ў людзей! Уся прырода па-свойму цікавая. Вось што людзі едуць глядзець на Паўночны Полюс у Арктыку? А ў нас столькі ўсяго цікавага захавалася! Драўляная архітэктура, старажытныя касцёлы з арганамі, цэрквы! Проста з гэтым трэба працаваць. Замежнікі едуць і цікавяцца.

**— Самагонку нашую п’юць…**

— Я табе скажу, што па вёсках ужо і самагонку развучыліся нармальна рабіць. Ужо прыязджаеш — і кажуць, што развучыліся. Ужо і лянота ехаць у той лес з гэтым апаратам, а раптам яшчэ міліцыя зловіць… Ты ж разумееш, што тая міліцыя сама гоніць самагонку і нармальна ёю карыстаецца. У дзённіках Караткевіча ёсць добрая гісторыя. У нейкай вёсцы міліцыянты злавілі двух дзядоў-самагоншчыкаў. Ааштрафавалі толькі аднаго. Бо ў першага была самагонка добрая, і яе ўсю выпілі, не паспелі нават давезці да раёна. А тую, што была дрэнная, пакаштавалі і давезлі.

**— Складваецца ўражанне — Вы таксама спецыяліст!**

— Я табе зараз фота пакажу! О, наша Палессе! Вось гэта мой бацька, Царства Нябёснае, гоніць! У нас быў свой самагонны апарат. На такіх чоўнах пад’язджалі, вазілі брагу, гналі. Якасная была: ніхто не травіўся. І ў нас не было такога, што ёй гандлявалі — людзі рабілі для сябе. Заробкі былі малыя, а самагонка — сродак разліку. Узаралі агарод — чым бабулі разлічыцца? Яна пляшку на стол паставіла. Як талака — людзей жа трэба частаваць. І не было такога, што напіваліся. Выпілі па чарачцы, паабедалі, пасядзелі, песні паспявалі і разышліся. І спявалі, і выпівалі нармальна, і ніхто не валяўся нідзе.

**— Як такога творчага чалавека, як Вы, у свой час занесла ў ПТВ будаўнікоў?**

— Я пасля войска прыехаў у Менск і думаў, куды паступіць. А куды паступаць, калі ў школе я вучыўся не вельмі добра? Паступіў у ПТВ, працаваў на вежавым кране. Пасля пазнаёміўся з хлопцамі, якія вучыліся ў Тэатральна-мастацкім інстытуце. І мяне настолькі захапіла гэтае тэатральнае мастацтва! Я паступіў з першага разу. У мяне жыццё перавярнулася цалкам. Не паспяваў спраўляцца з такой хуткасцю. Начамі чытаў, проста не спраўляўся з аб’ёмам інфармацыі, які на мяне зваліўся.

**— А пра войска раскажаце? Дзе і як Вам служылася?**

— Калі ішоў у войска, мяне дзед выводзіў з хаты па ўсіх правілах і абрадах, як трэба. Мне, канечне, пашанцавала: служыў я кіроўцам — вазіў начальства на ўазіку. Я перад сыходам на грамадзянку ўсё думаў, дзе б такую працу знайсці. Хаця ўсякае было. І праз дзедаўшчыну прайшоў, і праз іншыя рэчы. Служыў ва Украіне (паміж Бярдзічавам і Чуднавам), гэта былі войскі РВСН. Але гэтыя ракеты ў нас толькі ляжалі, захоўваліся.

**— Чаму Вас там навучылі?**

— У нас хлопец адзін служыў, які вырашыў закасіць пад дурня, каб камісавалі. Але камісавацца не ўдалося, а выйсці з гэтай ролі ён ужо не змог. І яго па-іншаму не ўспрымалі. Падыходзіць, а яму ў лабешнік — трэсь, і ўсё. За стол з ім ніхто не сядаў. І яго маці, калі прыязджала да яго разам з братам, сказала такую фразу: «Армія з адных робіць сталь, а з другіх — шлак». Вось так.

Цяпер жа косяць ад войска. У мой час, калі цябе не забралі — гэта было сорамна, ты не ведаў, дзе падзецца. Усё, калека нейкі, дзеўкі любіць не будуць. У нас аднаго хлопца камісавалі з войска праз год службы з-за праблем з сэрцам. І ён паехаў не дахаты, а да нейкай радні ў Расіі, жыў там у іх год, каб пасля вярнуцца ў форме дадому нармальна. Вось што такое было войска ў наш час!

Я адслужыў два гады і абсалютна не шкадую. У мяне засталіся вайсковыя сябры, з якімі мы стэлефаноўваемся, ездзім на рыбалку разам. У нас у часці былі ўсе: і малдаване, і дагестанцы, і рускія, і ўкраінцы, і ўзбекі — гэта былі 1986—88 гады. І ўсе народы паміж сабой размаўлялі па-свойму. І мы тады таксама дамовіліся ўсе і размаўлялі толькі па-беларуску між сабой. Гарадскія хлопцы не ўмелі па-беларуску добра размаўляць, таму яны вучыліся ў нашых вясковых хлопцаў.

**— Пытанне пад фінал. Вы неяк казалі, што не карыстаецеся інтэрнэтам. Нічога не змянілася?**

— Інтэрнэтам я карыстаюся. Проста не хачу ў гэтых сетках быць. Чытаю навіны — зайшоў, паглядзеў, што піша «Наша Ніва», дзе там якога сабачку прыдушылі пад якім мостам.

**— Тэлевізар не глядзіце?**

— Ну як магу яго не глядзець, калі там мяне паказваюць? Але гэта ж не значыць, што я сяджу і пастаянна пазіраю. А па апошніх падзеях можна сказаць, што шмат людзей глядзіць тэлевізар. Прыехаў я на вёску, а ў нас жа там ад украінскай мяжы недалёка, таму ўкраінскія каналы таксама ідуць. І дзве бабкі пачалі спрачацца: адна валіць на Парашэнку, другая — на Пуціна. Проста ў адной адныя каналы ідуць, а ў другой — іншыя…

Тэлевізар — гэта вельмі магутная рэч. І таму варта паказваць па ім і папулярызаваць нашу гісторыю.

Гутарыў Зміцер Міцкевіч


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Юры Жыгамонт**

Нар. у 1968 у вёсцы Дзямідаў Нараўлянскага раёна. Акцёр, тэлевядучы, журналіст. Скончыў ПТВ па спецыяльнасці «кіроўца вежавых кранаў», Тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў у тэатры «Вольная сцэна» і ў Тэатры юнага гледача. Ад 2006 — вядучы папулярнай перадачы «Падарожжы дылетанта» (цяпер — «Прыгоды дылетанта») на СТБ. Жыве ў Мінску. Жанаты, гадуе дачку.

# Пра кнігу Казько, прэмію Гедройца і літаратурны працэс

Піша **Малгажата Бухалік.**

Я падумала, што варта трохі напісаць пра прэмію Гедройца, а найперш і перадусім пра ўзнагароджаную сёлета кнігу — «Час збіраць косці» Віктара Казько.

Даводзілася чуць шмат папрокаў што да першай аповесці з гэтай кнігі: маўляў, недалужная кампазіцыя, хаос, недапрацаваныя матывы і г.д. Усё гэта праўда. Толькі ў выпадку з «маладымі пісьменнікамі» гэта назавуць смелым эксперыментам, нават калі гэта ломка дзеля ломкі. А калі чалавек з даробкам зробіць нешта падобнае, адразу гучаць спачувальныя галасы: «ну, не атрымалася», «з кожным бывае». Безумоўна, бывае, але давайце давядзём гэтую легкаважную паблажлівасць да лагічнага канца: раз аўтар да такой ступені не заўважае, што ў яго «не атрымалася», і не толькі публікуе гэты твор, але і распачынае ім кнігу, гэта азначае, што на старасць ён зусім аглух, аслеп і здурнеў. Або проста ведае, што робіць.

Пасля вайны аказалася, што ацалелыя ад Халакосту часта не могуць вярнуцца ў «нармальнае жыццё» пасля гадоў перабывання ў той самай паласе, у якой апынуўся герой Казько — дзе ўжо не лічыліся жывымі, але яшчэ і не памерлі, дзе былі асуджаныя на смерць, і не толькі ў вачах палюючых на іх нацыстаў, але і ва ўласных, і ў вачах тых, хто іх ратаваў. Страцілі супольную мову з рэштаю людзей, не маглі гаварыць на гэтай мове, бо яна ўжо была няздольная апісаць іх досвед. Тэадор Адорна сказаў, што пісанне вершаў пасля Асвенціма — гэта варварства, у тым ліку і ў эстэтычным сэнсе, бо класічныя, зграбныя літаратурныя формы рассыпаюцца ў пыл перад абліччам смерці, у мозгу, праедзеным канчатковым страхам. Казько напісаў сваю аповесць мовай гэтага канчатковага, апошняга страху. І каб гэтая мова была натуральнай, яму давялося рызыкнуць праслыць някемкім старым, у якога не выйшла апавяданне. Але, маўляў, не бядуй, старэча, далей табе ўдалося пісаць больш чытэльна. А тым часам чалавек піша твор, які — калі вытрымаеш і прачытаеш, — хоцькі-няхоцькі перанясе цябе ў пачакальню смерці.

У мяне быў дзядзька, капітан карабля. З дзяцінства я слухала ягоныя аповеды з далёкіх вандровак — пра айсбергі, штормы, кітоў і іншыя цуды. Некалькі год таму дзядзька захварэў і за два месяцы да смерці, калі ўжо дакладна ведаў, што памірае, пачаў званіць мне і расказваць фактычна тыя самыя гісторыі, але ў неймаверна скалечанай форме. Зніклі сюжэты, прыўкрасныя вобразы, матывы, кульмінацыі, дакладна выверaныя лірычныя адступленні. Усё гэта ператварылася ў дэструкцыю, змрочны хаос з раптоўнымі выбухамі, праблісками нейкіх сцэн і матываў, якія расцягнутыя ў бясконцасць і вядуць у нікуды. І цяпер, пасля тузіна старонак страшэнна цяжкога тэксту Казько, я раптам усвядоміла, што ведаю гэтую мову. Сутыкнуўшыся раз, яе ні з чым не зблытаеш. Звычайна чалавек — на шчасце — ставіць інстынктыўны бар'ер заглядання ў гэтую жахлівую паласу, і гэта цалкам здаровыя паводзіны, што паміраючых слухаюць, але не чуюць — бо, напэўна, не трэба туды зазіраць заўчасна. Нічога дзіўнага, што пра аповед «І нікога, хто ўбачыць мой страх» людзі пазбягаюць думаць, нават калі хваляць астатнія творы. Што, зрэшты, Казько дакладна прадбачыў, мяркуючы з назвы аповеда.

* * *

Сёлета, першы раз ад паўстання прэміі Гедройца, журы не толькі галасавала, але шмат і шчыра размаўляла пра кнігі — у мяне ўпершыню ўзнікла ўражанне, што мы прымалі рашэнне, узяўшы пад увагу аргументацыю адно аднаго. Гэта важна, бо публічныя дыскусіі часта тычацца аўтараў, працэдураў, цэнтраў сіл, піяру і г.д., а не самога тэксту кніжак, які ва ўсёй гэтай куламесе знікае. А кніга пачынаецца толькі тады, калі яе чытае чытач.

Два гады таму я падумала, што прэмія існуе галоўным чынам дзеля таго, каб людзі чыталі беларускую літаратуру, якая прытым цяжкадаступная, і таму на сайт трэба павесіць вялікія ўрыўкі з кніг-прэтэндэнтак. Я спраўдзіла беларускія законы аб аўтарскіх правах і папрасіла аўтараў даслаць фрагменты на 10 старонак плюс кароткія біяграфіі; паралельна прасіла ў выдаўцоў дазволу на публікацыю. Працы было шмат, але я ўпэўненая, што даступнасць тэксту і магчымасць спакойнага чытання найважнейшыя, бо тады кнігі гавораць самі за сябе. Вось, да прыкладу, нядаўна я даведалася, што ў Варшаўскім універсітэце студэнты атрымліваюць заданне прачытаць гэтыя фрагменты кніг, ацаніць па балах і абгрунтаваць свой выбар — і ім цікава, бо гэта і ёсць жывая літаратура ў стадыі нараджэння, першага вольнага кантакту з чытачом, пакуль яшчэ гісторыкі і крытыкі не расставілі ўсё па сваіх месцах. Цяпер размяшчэннем урыўкаў на сайце займаецца аргкамітэт, які выстаўляе менш — толькі 6 кніг з шорт-ліста. (Чаму? Можа, варта хаця б 12, лонг-ліст?) Да таго ж кожны ўрывак нашмат карацейшы, на 2—5 старонак (чаму?), і на дадатак — штогод пасля ўручэння прэміі тэксты выдаляюць; зноў жа — навошта? Гэта ж найлепшая рэклама і для чытачоў, і для замежных выдаўцоў. І пакінуць для чытання ўрыўкі кніг усіх папярэдніх гадоў нічога не каштуе.

У той жа час да рэцэнзій на афіцыйным сайце прэміі я стаўлюся скептычна. Лічу, што іх увогуле там не павінна быць, бо іх месца — у прэсе. І гэта незалежна ад таго, «пазітыўныя» яны ці «негатыўныя», бо гэта паняткі адносныя, ды, зрэшты, рэцэнзія часта больш гаворыць пра крытыка, чым пра кнігу. Сёлета чытачы, бачачы адну-адзіную знішчальную рэцэнзію на кнігу з шорт-ліста сярод рэшты ўхвальных і не ведаючы, што аргкамітэт, які ўкладае старонку, цалкам незалежны ад журы (мы не атрымліваем ніякай інфармацыі ні пра яго асабовы склад, ні пра ягоную працу), мог бы падумаць, што ў журы шызафрэнія. Пры гэтым, падкрэсліваю, я не маю ніякай прэтэнзіі да Марыі Мартысевіч — гэта яе законнае права меркаваць пра кнігу Казько так, як яна мяркуе, і публікавацца там, дзе лічыць патрэбным, і я першая буду бараніць гэтае яе права. Віна ляжыць выключна на аргкамітэце, які, відавочна, не разумее, што прэмія Гедройца павінна служыць чэснай прамоцыі кніг, а не гульням з белым і чорным пірам.

* * *

І яшчэ. Гадамі беларусы, што прыязджаюць на Захад, пазіцыянуюць сваё пісьменніцтва як абсалютна новую з'яву, якая раптам паўстала пад канец 1990-х і з кожным годам расцвітае. Раней, натуральна, была «Песня пра зубра», Багдановіч і нават Быкаў (Захад яго памятае, таму і выпадае згадаць, хаця гэта й яўная старызна), а потым нічога, і раптам — мы, мы, мы! Я намагалася далікатна растлумачыць, што еўрапейцы не такія недарэкі, каб паверыць у літаратуру зніадкуль, і што вундэркінды, якія бачаць і чуюць толькі сябе, выглядаюць глупа. Урэшце я адчула сябе няёмка і пачала перакладаць Караткевіча, каб гэта набыло хоць нейкую цэласнасць. А потым, тры гады таму, пачала чытаць кнігі, падаваныя на прэмію Гедройца, і ўпершыню паехала ў Беларусь. І тады аказалася, што ўсё ў вас ёсць, увесь шырокі нармальны літаратурны працэс — толькі што ён замоўчваецца ў «экспартным варыянце».

Зразумейце мяне правільна: гэта не той выпадак, калі варта смела «скідваць дзядоў з парахода сучаснасці». Тады давялося б скідваць па-сапраўднаму — а дзяды ў вас моцныя, магло б і не атрымацца. Таму іх проста замоўчваюць. Нахабна замоўчваюць, як бы дзіўна гэта ні гучала. Вашыя вундэркінды здолелі прабіць дарогу праз Шэнген і паказаць сябе і толькі сябе — а гэта не працуе. Яны, натуральна, выбіваюць гранты, запрашэнні, і іх будуць запрашаць, бо выступаюць яны прафесійна і прыгожа, але асаблівай карысці беларускай літаратуры з таго няма. Самі хлопцы праходзяць — а вось іх кнігі ўжо не. І вось мяне бянтэжыць гэты разрыў у вашым літпрацэсе: тыя, хто ўмее пісаць, хто можа па-сапраўднаму паказаць у літаратуры проста вас, сённяшніх беларусаў — яны сядзяць і пішуць ціхамірна ў куточку; а вундэркінды крычаць па ўсёй Еўропе, што апрача іх нікога няма. Ну, няма дык няма, кажа Еўропа. І нічога не зменіцца, пакуль вы не пачняце прапаноўваць не яркі пусты піяр, а сур'ёзную літаратуру. Якая ў вас ёсць.

**Малгажата Бухалік**
польская перакладчыца беларускай літаратуры. Таксама перакладае з расейскай мовы і піша рэцэнзіі для выдавецтваў. Сябра журы прэміі імя Гедройца.

# Перадайце ў Цэнтр:

32-гадовы мінчук пераехаў жыць у дзедаву хату ў глухім Палессі. Дзённік **Андруся Горвата.**

*Вёска, куды вярнуўся Андрусь Горват, называецца Прудок. Гэта ў глушы Палесся, каля мяжы з Украінай, 300 км на поўдзень ад Мінска. У Прудку жыве каля 150 чалавек. Найбліжэйшы ад яго горад — Хойнікі. Калі ведаеце знакамітыя вёскі Юравічы, Айцюкі ці Каранёўку («Людзі на балоце» Мележа) — гэта побач.*

*Зарабляе Андрусь Горват фрылансам. Акрамя таго, з верасня ён мае пайсці настаўнікам у Юравіцкую школу. «Хацеў настаўнікам беларускай мовы, але бяруць гісторыкам», — піша ён. Разлічвае ён мець прыбытак і са свайго вялікага агарода.*

*Андрусь Горват у сталіцы працаваў журналістам і адначасова дворнікам тэатра імя Янкі Купалы.*

*Прапануем Вашай увазе запісы і фоты з ягонага вэб-дзённіка.*



**18 чэрвеня 2014**

У 1931 майго прадзеда Андрэя выслалі з роднай вёскі ў далёкую Пермскую вобласць на руднікі. Праз два гады ён збег і вярнуўся назад. Яго хату ўжо прыстасавалі пад сельскую школу, таму ён тры гады бадзяўся па суседзях са сваёю сям'ёю. Бадзяўся-бадзяўся, зноў стаў заможным, яго зноў раскулачылі і зноў выслалі — ужо ў Свярдлоўскую вобласць. Болей ён не вярнуўся. Памёр невядома дзе і калі. Аднак вярнуўся яго сын, мой дзед. У тую ж вёску. І пабудаваў там дом. У гэтым доме нарадзіўся мой тата. Сёння гэты дом паціху разбураецца. І я зразумеў, што мушу зрабіць тое, што не здолеў мой прадзед, — вярнуцца дадому.

Пакуль мае родзічы актыўна вырашаюць, як перааформіць дом дзеда на мяне, запісвайце адрас: Каленкавіцкі раён, вёска Прудок. Неўзабаве (праз восем месяцаў) я туды з'еду назаўсёды, там пастараю, памру і буду пахаваны на мясцовых могілках. Вядома дзе і вядома калі.

Там лес амаль дакранаецца да хаты.

**21 чэрвеня**

З сёння ў мяне ёсць свой дом.

**29 чэрвеня**

Сёння Варвара мяне панюхала і сказала, што я пахну домам, грыбамі, электрычным святлом і паперай. Вядома, я не пахну ўсім гэтым, але як добра яна мяне адчувае. Як добра яна адчувае людзей увогуле.

**15 кастрычніка**

Ездзіў я да адной сваёй бабулькі, якая жыве за 4 км ад маёй хаты, у вёсцы Боруск. Якая ж асалода слухаць яе гаворку. Нават крыўдна робіцца, што я ўвесь такі адукаваны і не ўмею размаўляць па-ейнаму. Але гены пальцам не раздушыш — узгадваюцца родныя палескія словы, расцякаюцца па сэрцы маслам: етака, чагойліся, кажны, лісянкі, роскідуўся, куплеюць, попрыездзжаюць.

Дак пра штэ ента я? Во цэта ж было б харашэ навучыцца размоўляць па-тутэйшаму. Прыеду такі свой ушчэнт, паздароўкаюся з бабай Гашай. А яна мне ска': «Вой, Андрушка, 'шчэ болей схуднеў. Хіба ж ніхто не давоў есці? Пойшлі міску крышанёў дом».

**15 студзеня 2015**

З першага верасня [праз восем месяцаў] я пачну працаваць настаўнікам у сельскай школе.

Я ў дзяцінстве марыў пра гэта — стаць сельскім настаўнікам, але стаў журналістам. І тут раптам. Ужо цяпер вельмі хвалююся — гэта ж такая адказнасць. Сёння нават уяўляў сваіх будучых вучняў, папрасіў іх называць мяне спадаром Андрусём.

**26 студзеня**

Ноччу сасніў Ганну Чарнушку з «Людзей на балоце».

У сне мы цалаваліся, Ганна нават паказала калена. А вы кажаце, Эван Рэйчал Вуд. Калена Чарнушкі — во сапраўдны беларускі эратычны сон.

**7 лютага**

Праз адзін мільён восемсот чатырнаццаць тысяч чатырыста секундаў я буду дома.

А ўчора загадчыца гаспадаркі падпісала маю заяву на звальненне. Куля зямная нахіляецца ў бок вясны.

**20 лютага**

У мяне засталіся тры апошнія дні. 114-ы пакой — яшчэ тры дні мой пакой. А потым вазьму з сабой тэрмас, сяду ля фантана, буду піць гарбату а 7 раніцы іназіраць. Абавязкова так зраблю.

Крыху падумаў і вырашыў замест гарбаты ўзяць каньяк.

* * *

Збіраю рэчы. Знайшоў свой дзіцячы вершык:

«Справа пижама.
Слева кровать.
На кухне ножами
Орудует мать».

**24 лютага**

У летапісах Купалаўскага тэатра цяпер два Горваты. Першы — трынаццаціюрадны брат майго прадзеда, маршалак шляхты Мінскай губерні Атон Горват, які ахвяраваў 50 рублёў на будаўніцтва тэатра. І я, які сыграў ролю дворніка ў рэалістычнай працяглай дзеі. Ключ ад грымёркі здадзены, пячатка пастаўлена. Без авацый, без кветак і падзякаў, ціха, лёгка, незаўважна перацякаю ў новую ёмістасць. З галоўным набытым уменнем — не саромецца рабіць простыя рэчы.

**26 лютага**

Вельмі добра памятаю пачатак свайго сталічнага жыцця. Я называў кока-колу сокам, модна апранаўся на «Жданах», вазіў з дому закаткі. Потым хутка пасталеў, стаў апранацца на «Дынама», называць кока-колу «напітком», навучыўся казаць: «Мама, не нужны мне эті закаткі, что я буду с німі тягаться».

Я аніколькі не шкадую, што засталіся толькі дзве ночы пад мінскім небам. Гэта вельмі каштоўнае ўменне — без болю пакідаць месцы і людзей. Бо самае галоўнае ж застанецца, нікуды не дзенецца.

А папраўдзе, я проста сябе падбадзёрваю.

**6 сакавіка**

Учора я перанёс з каморы на гарышча 50 сонных матылькоў.

Яны ледзьве варухнулі кволымі крыламі, паглядзелі на мяне заспанымі вачыма — і зноў трапілі ў абдымкі матылькоўвага Марфея. Цяпер на маім гарышчы жывуць маленькія сонныя каморнікі.

**9 сакавіка**

Цяперака ў мяне ёсць шапка-гандонка і польскі швэдар, куплены ў 90-я (я тады брату напісаў ліст у войска: «Цёця Катя прывязла нянашы світар із Польшчы»). У нас тут так модна. Я модны.

**10 сакавіка**

Сяджу ў яблыневым садзе, пяе птушка, лётае пчала, брэша сабака, гудзе трактар. На руках і ботах — гліна.

За лесам — Украіна.
За кароўнікам — Мінск.
Вёска. Лета.

**12 сакавіка**

З'ездзіў у Юравічы. Там жылі людзі 25 тысяч гадоў да нашай эры. Рабілі хаткі з костак мамантаў. Тады ў Юравічах не было сельсавета. І тыя людзі не прапісаліся і з'ехалі. А вось я прапісаўся. З сёння я афіцыйна тутэйшы вясковец. Перадайце ў Цэнтр: урбанізацыя адмяняецца.

**16 сакавіка**

Еду ў цягніку з Гародні. На верхняй паліцы 120-кілаграмовы мужык. Паліца раз не вытрымала, сарвалася, пакуль я хадзіў да вятру. Яе адрамантавалі. Мужык спіць. Я малюся.

**18 сакавіка**

Прыехаў у Мінск. Першае ўражанне — чысценька, як і па тэлевізары.

**19 сакавіка**

«Паляшук, прыйшоўшы на белы свет, жыццё пачынае ў сасновай калысцы, цэлае жыццё жывучы ў сасновай хаце, абаграванай і асветленай сасной, спіць, адпачывае і есць на сасновай мэблі. У вольны ад працы час слухае гукі, узмоцненыя слаямі сасновага дэка скрыпкі, а адыходзячы на вечны адпачынак ад зямных турбот, забірае з сабой чатыры сасновыя дошкі ў выглядзе дамавіны».

**Часлаў Пяткевіч**
**«Рэчыцкае Палессе»**



**20 сакавіка**

Пасля расійскага тэлебачання хочацца каго-небудзь застрэліць, а потым памыцца і нажэрціся канопляў. І справа не ў змесце, а ў агрэсіі, з якой ядуць мазгі. А беларускае тэлебачанне мяне супакойвае. Такія чырванашчокія гомельскія чыноўнікі — тармазнутыя і хітраватыя — проста бусенькі мімімішныя.

Гэта я да бацькоў прыехаў. Калі я выкіну іх тэлевізар, мяне не зразумеюць.

**21 сакавіка**

Сёння будзе мая першая сапраўдная ноч у сваёй хаце.

**23 сакавіка**

Кот, прывезены Андрусём з сабой з Мінска, упершыню залез на гарышча.

**25 сакавіка**

Іду па Прудку з малаком, а сабака: «Рршрр». А гаспадар яму: «Няможна, свае». У мяне ажно спіна выпрасталася — так прыемна быць сваім.

**26 сакавіка**

Вычышчаю пограб, выкапаў калонію жукоў.

Яны мне:
— Якой халеры! Выключы святло!
Я ім:
— Пад'ём! Вясна!
— Трасца табе ў с*аку! Дай паспаць.
— Спіце на вуліцы. Гэта мая хата.
— Чагоооо?! Навалач сталічная, шкындзёхай адсель. Мы тут нарадзіліся. Хата наша.

А вы кажаце: як ты там будзеш адзін? А я кажу: у інтравертаў няма часу на адзіноту — зашмат усяго адбываецца навокал. А будзе сумна, пафарбую зялёнкай лямпачкі.

**27 сакавіка**

Сёння зноў быў у Мінску. Усе людзі пamытыя. Гэта ўражвае.

**2 красавіка**

Крапіва. Мой ранішні эліксір несмяротнасці. Выпіў — і да вечара несмяротны.

А па праўдзе, адчуванне, што ўнутры ўключаецца генератар. Адразу хочацца перацягнуць цаглінкі ці выкарчаваць стары пень.

**3 красавіка**

1. У мяне 20 саджанцаў вішні. Заўтра яны стануць садам. Не разумею, чаму я 15 гадоў жыў у Мінску. 2. Нарэшце я пазбавіўся ад курэння. Не разумею, чаму я 15 гадоў курыў.

**4 красавіка**

Рома — парань гарадской. Ноччу — вясковыя дзеўкі. Днём спіць у маім ложку.

* * *

Электраабагравальнік ізноў сапсаваўся, 3G-мадэм не працуе, малако не кісне. У каморы, дзе я сплю, пакуль што +8. Ураааааа, прыгоды!

# урбанізацыя адмяняецца

**5 красавіка**

Навіна пра тое, што ў Прудок прыехаў жыць сталічны журналіст, аблящела ўсю вёску. Але недзе плётку перабрахалі і кажуць, што прыехаў пісьменнік.

**7 красавіка**

Мой дзень пачаўся з грукату ў дзверы, калі я яшчэ ляжаў у ложку.

Трохі праз нечаканасць, трохі праз урачыстасць выгляд я меў занепакоены, але прывесці сябе ў парадак часу не было, бо той, хто грукаў у дзверы, мог падумаць, што я яшчэ сплю (папраўдзе, так і было), а мне не хацелася б, каб мясцовыя даведаліся, што я сплю ў восем раніцы. Жанчына на ганку пабачыла тое, што пабачыла: памятага барадатага мужыка са спужанымі вачыма.

— Я табе бульбу прывезла, — яна працягнула мне пакет з бульбай. — Баршчы ясі? У мяне борщ ё закатаны. І яйцы вечарам прывязу. А жыр нада?

Я спрабаваў складна адказваць, але выходзіла не вельмі. У галаве лунала думка: «Галоўнае, каб яна не падумала, што я з бадуна».

**8 красавіка**

Суседка адключыла мяне ад электрычнасці (засцала, што яе хата згарыць праз мяне). Я купіў у краме свечку, сшытак і асадку.

Яшчэ ёсць кніжкі і трохі зарадкі на тэлефоне, адкуль і пішу. І ведаеце што, так крута! Так проста. Так зразумела ўсё. Ежа — гэта вогнішча. Святло — гэта агонь. Тэкст — гэта папера.

**12 красавіка**

Сёння ўваскрос Хрыстос. Хрыстос уваскрос!

**13 красавіка**

Мая бабуля казала, што па пятніцах напярэдадні вялікіх царкоўных святаў трэба пакідаць куццю на стале для продкаў. Але бабуля не ведала, калі тыя святы, і пакідала куццю штопятніцу. Маці толькі што расказала, а мне няма куды запісаць. А я мушу запісаць, каб мой унутраны нерэалізаваны этнограф супакоіўся.

**15 красавіка**

Мы з Ромам у чаканні самага важнага дыялогу з маім стрыечным братам-гаўнюком [адносна правоў уласнасці на хату] (дзякуй Богу, што ён, як кажуць палякі, мой цётачны брат, то бок не майго прозвішча). З партрэтам дзеда паразмаўляў, з унутраным псіхатэрапеўтам паразмаўляў, з жывымі Горватамі паразмаўляў. За намі — праўда і Сталінград-Грунвальд. Пастаўлена мэта — знайсці ў закрамах цела брата Шурыка адэкватную малекулу і запэўніць яе мірнымі метадамі, што «Прудокнаш». Калі малекулу не знайду, скажу так: «Вон из Прудка. Сюда я больше не ездок. Бегу, не оглянусь, пойду искать по свету, где оскорбленному есть чувству уголок. Карету мне. Карету!» Але гэта жарт. Насамрэч, я хвалююся. Дыпламатычны талент Лукашэнкі, явіся мне (паўтарыць тры разы).

Абн. Адэкватную малекулу ў целе брата знайшоў. Малекула будзе думаць да Радуніцы. 5—6 дзён я вішу ў паветры, усміхаюся і любуюся вясеннім сусветам.

***

«Рухаючыся праз Мінск, Мазыр, Нароўлю ў Чарнобыль, мы амаль увесь час ішлі лясамі. Каля Нароўлі мы праходзілі па такіх мясцінах у першабытных лясах, дзе нейкую вёсачку ці ліхую карчомку можна было ўбачыць толькі праз некалькі міляў адна ад адной. Жыхары гэтых малых паселішчаў былі такімі палахлівымі, што перад нашым набліжэннем з жонкамі і дзецьмі хаваліся ў лясах, а мы натыкаліся на пустыя сялібы. І толькі пазней, прываблены нашымі падарункамі, а канкрэтна гарэлкай, асобныя з іх вярталіся дадому».

**«Дзённік генерала Яна Вейсенгофа», 1790**



**17 красавіка**

Мая маці вучыць Варвару чытаць: Ч + Ы = ЧЫ. Гэта крута — мець сапраўдную беларускую бабулю.

**18 красавіка**

А вам вядома пра традыцыю падпальваць цыгарэту і класці на магілу памерламу курцу? Мой дзядзька зараз так "курыць". Учора да яго прыязджалі мае сёстры, прывезлі пакурыць.

**19 красавіка**

У скарбонку беларускай лаянкі: «Маць яго дыхала!» (націск на «ы»). Перакладаецца: ён такі і гэткі, але няхай робіць што хоча, я больш умешвацца не буду.

**21 красавіка**

Мой прадзед казаў: "Трэба есці так, каб на жываце можна было вош забіць".

***

Паведамленне з лініі фронту (для тых, хто ў тэме): Прудок наш.

**22 красавіка**

Маша цікавіцца, чаму я не жыву ў Варшаве, а я сёння пасадзіў буракі, моркву, рэдзьку, цыбулю, часнок, кроп, пятрушку. Зараз пайду па лазу, каб сплесці кошык. Вось чаму, Маша.

**23 красавіка**

У Калінкавічах дзеўкі ў кароткіх спадніцах і высокіх ботах. Напэўна, такіх мела на ўвазе прудкаўская бабка, калі перасцерагала мяне ад жонкі-лацугі.

**24 красавіка**

У мяне зноў расце барада. Не наўмысна яе рашчу, проста няма ўмоваў галіцца, дый у люстэрка сябе бачу, толькі калі прыязджаю да цёткі ў Калінкавічы (опа, а я зноў барадаты). Тутэйшыя сёння сказалі, што я выглядаю як святар. Параілі павесіць на дах хаты крыж, а ў хаце — абраз. Людзі будуць прыходзіць маліцца. Абраз у мяне ўжо есць. Мая бабця прыцягнула з Пскова.

**26 красавіка**

Штораніцу ў 7:40 ля маёй хаты на ровары праязджае маладая жанчынка. Штораніцу яна гучна крычыць: «Добрае утра!»

З гэтага ўтварылася традыцыя. Я мушу паспець прачнуцца, прыбраць ложак, пакарміць Ромку, распаліць вогнішча, прыгатаваць каву і сесці на ганак. Яна мусіць здалёк пабачыць мяне, пад'ехаць бліжэй і гучна вымавіць: «Добрае утра!» Тады будзе добры дзень. Сёння будзе добры дзень.

**28 красавіка**

Сублімую сэксуальную энергію ў пасеў гароднiны.

І будзе ў мяне восенню сэксуальны ўраджай. Вельмі-вельмі-вельмі шмат.

**29 красавіка**

Учора быў у Боруску. Дзядзька-паляўнічы сказаў, што адчувае пах дыму і што вецер нехарошы. Я нічога не адчуваў. Ён мне ўвесь час: «Ну вось, вось зараз панюхай». Вечарам прачытаў пра пажар ля Чарнобыля. Раніцай не ўбачыў свайго лесу: ён стаў сівым ад дыму. Праз гэты дым немагчыма дыхаць. Я спачуваю суседнім Хойнікам — яны так блізенька дыхаюць гадасцю.

***

Ромка спаймаў першую мыш і робіць намаганне расказаць мне, што яму падабаюцца мышы і што я мушу менавіта такую ежу купляць яму ў краме. Я таксама люблю мышэй, але жывых, таму раблю выгляд, што нічога не разумею. "Гэта твая прырода, — кажу. — Калі-небудзь і цябе з'ядуць".

**3 мая**

Ромка знайшоў сабе чорную котку. Ужо тыдзень начуе ў яе, дадому прыходзіць толькі падсілкавацца.

— Што, палюбоўніца не накарміла? — кажу. — Ты зразумей, Ромка, яна возьме ўсё, што ёй трэба, а потым зробіць выгляд, што і не ведае цябе. Трэба, як я, будаваць хату і дбаць пра пограб, каб на зіму было куды бульбу пакласці. А дзеўкі выціснуць з цябе сокі ды знойдуць сабе новага — маладога ды энергічнага.

— Каў. Каў.

— Паеў бы хоць, пане Каханку.

— Каў.

Ледзьве жывы, але пайшоў мой дурань да сваёй брунеткі. А я тварог раблю і думаю.

**5 мая**

У мяне актывізаваўся нейкі паляшуцкі ген, які штодня па 24 гадзіны нудзіць: што яшчэ пасеяць? Зямля прападае. Што яшчэ пасеяць?

Купіць карову. Купіць казу. Не, лепей дзве каровы. І казу. Тры. І трактар. І зямлі яшчэ.

Пасадзіў 333 сланечнікі. Зімой прыеду ў Мінск ля метро семкі прадаваць.

**9 мая**

Абама прыжаў Меркель, і яна не можа прыехаць у Маскву паздравіць Пуціна.

У цягніку кажуць палескія бабулі. Нашто мне тэлевізар — я ўсё ведаю і так.

**10 мая**

Да маіх бацькоў прыехалі госці з Расіі. І я тут гасцюю з Варварай. Дай мне, Божа, цярпення.

Мяне не так расійцы турбуюць, як каша ў галовах палешукоў. І маіх бацькоў у тым ліку.

Я не агітую русафобію. Але мая тонкая душэўная арганізацыя псуецца ад украіна- і амерыкафобіі. Вярнуся дадом — нап'юся крапівы.

**11 мая**

На Палессі маленькія кусачыя мошкі называюць маскалямі. Вось так мова захоўвае памяць пра колішнія падзеі.

**14 мая**

А ў мяне лён павылазіў з зямлі. Гэта нешта такое сакральнае беларускае. Кожны мусіць пасадзіць лён, каб адчуць урачыстасць моманту. Ён, дарэчы, добра расце на нашай зямлі.

***

У пошуках бабулі, якая можа вышыць вышыванку, тэлефаную сваёй маці.

— Ма, — кажу, — а мо ты ведаеш такую?

— Ведаю, — адказвае, — гэта я.

Заслона. Тое ды сёе, высветлілася, што яе бацька (то бок мой дзед) быў апошнім вяскова-вым майстрам, хто рабіў пасталы (лапці па-нашаму). А ўсё з-за таго, што хросная баба маёй маці (баба, якая перарэзала ёй пупавіну, бо маці нараджалася дома) вельмі любіла насіць пасталы, апошняя ў вёсцы, і мой дзед рабіў іх ей да самой смерці.

«І я пару разоў пастолікі насіла», — кажа маці. А яе дзед (мой прадзед) апошні ў вёсцы насіў нацыянальны строй.

«Не запраўляў у штаны, а паверх іх, і падпаясваўся, а я арнаменты вышывала знізу, на каўнеры, на грудзях і на манжэтах. А дзед надзяваў і ганарысты такі хадзіў па вёсцы».

Вось так нечакана замовіў я ў сваёй маці вышыванку «як мой прадзед любіў».

**26 мая**

У Калінкавічах дагэтуль прынята хадзіць па вуліцы з музыкай. Раней шпана цягала з сабой магнітолы на батарэйках. Сёння — мабільныя тэлефоны.

Тэлефона не бачна, таму ідзе такі хлопец — музычная скарбонка, — а з яго льецца блатняк. А сёння мне пашчасціла ўбачыць калінкавіцкую бабулю, з глыбіні якой цурчыць акардэон.

**30 мая**

Альбо беларусы такія цярплівыя таму, што шмат стагоддзяў запар вырошчвалі і палолі лён, альбо беларусы шмат стагоддзяў запар вырошчвалі і палолі лён таму, што такія цярплівыя.

Мае харвацкія гены глядзяць на граду і думаюць, што працы прынамсі на год, мае беларускія гены цярпліва полюць.

**3 чэрвеня**

Я б закахаўся, Маша, але няма тут дзевак. Трэба з Менску везці.

**6 чэрвеня**

Калінкавічы — гэта вялікая вёска. Пад ліхтаром у цэмры сумуюць без працы дзве прастытуткі — сапраўдныя, у парыках і з вялікімі грудзямі. Як у Альмадовара. Калі ўяўляеш трансвестытаў з буйнога еўрапейскага шоу, то вось такія яны бліскучыя.

Побач два міліцыянты шукаюць мінакоў без флікераў. Знайшлі мяне, узрадаваліся. Знайшлі б лепей прастытутак — усім было б добра. Там ужо флікер няма куды чапляць.

**8 чэрвеня**

Раніцай адно скочыла мне на галаву, гэтае пасялілася на маім капелюшы. Сітаўкі. На чалавечаскам языке — трясогузки.

**13 чэрвеня**

Гляджу я на свае кабачкі, града з якімі хіба што ўкраінскай мяжы не дасягае, і запэўніваюся, што я псіх. Скваплы палескі псіх.

**15 чэрвеня**

Сёння я правёў дзень са сваёй цёткай з Калінкавічаў. Цёця Воля размаўляе па-беларуску, не глядзіць тэлевізар, належыць да «Сведкаў Іеговы» і баіцца гадзюк. Тыдзень таму яна няўдала павярнулася на ложку і атрымала пералом ключыцы. З гэтай нагоды я і бавіў сёння час на яе градках. Прачнуліся мы ў чатыры раніцы, прайшлі восем кіламетраў, пабачылі сем маленькіх чорненькіх гадзюк. Цётка кажа, што, каб забіць гада, яго трэба праткнуць наскрозь галінкай. Калі не праткнуць, іншыя гады выцягнуць яго з іншасвету. Яна ў гэта верыць. Я ў гэта веру.

*[Працяг (спадзяёмся) будзе.]*



Побач з рэзідэнцыяй Лукашэнкі паставілі інсталяцыю «Жалезны хакеіст». З'явілася яна ў рамках праекта «Арт-астравы». Фігура атакуючага хакеіста звараная з жалеза і спецыяльна пакрытая іржой, каб, па словах аўтара інсталяцыі мастака Віктара Астэра, «паказаць натуральную мужнасць і жорсткасць у вобразе хакеіста — сапраўднага барацьбіта за перамогу сваёй каманды».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



АНТОН МАТОЛЬКА

Ад пачатку лета на плошчы Свабоды ў Мінску штосуботу праходзяць джазавыя вечары. На іх збіраюцца тысячы гледачоў, атмасферай вечары нагадваюць еўрапейскія гарады. Але 19 чэрвеня міліцыя ўпершыню выставіла металашукальнікі, праз якія прапускала ахвотных паслухаць джаз. Дзіўна, бо на папярэдніх імпрэзах ніякіх інцыдэнтаў не было. Кажуць, што гэта можа быць звязана з візітам патрыярха Кірыла. Калі і ў будучыні гледачоў будуць прапускаць праз рамкі, то людзей заўважна паменее, а магія мерапрыемстваў знікне.



FACEBOOK.COM

Спявак Аляксандр Саладуха апублікаваў цікавае фота. На ім ён з жонкай і маленькай дачкой на фоне Нясвіжскага замка пазіруюць у касцюмах, што імітуюць строі шляхты. Подпіс да фота — «Сучасныя Радзівілы».




ЗМІЦЕР ПАНКАВЕЦ

Новыя шыльды, якія ўсталёўваюць на дамах Мінска, утрымліваюць назву вуліцы не толькі кірыліцай, але і на лацінцы.



## Анекдоты і жарты

* * *

— Назавіце вашыя моцныя бакі.
— Логіка.
— Кім вы бачыце сябе праз пяць гадоў?
— 27-гадовым.

* * *

Учора памыла вокны, сёння развіднела на гадзіну раней.

* * *

Звальненне галоўнага трэнера зборнай Расіі па футболе Фабіа Капэла: атрымлівае 30 мільёнаў еўра.

Тваё звальненне: забіраеш кубак і кантэйнер для абедаў.

* * *

– Хто ж такі паставіў свой чырвоны «Ламбарджыні» на ўваходзе? Ні зайсці, ні выйсці! Я пытаюся, чый ён?
– I шо ты крычыш, Моня? Гэта ж твой!
– Ведаю, проста, можа, хто не ў курсе!

* * *

— Алесь, ты чаго б'еш брата палкай?
— Гэта палка для сэлфі, мама.
— О, тады асцярожна, не зламай.

* * *

– Назаві тры словы, якія падымуць табе настрой.
– Віскі, цыгара і блендар.
– А блендар навошта?
– Маме падару.

**Шаноўныя чытачы, наступны нумар «НН» выйдзе 8 ліпеня, у сераду. Прыемнага Вам летняга адпачынку і цікавых падарожжаў.**

## «НН» сто гадоў з вамі

**Артэзійскія студні.** Маючы навідавоку тое, што дрэнна наладжаныя і занячышчаныя студні, адкуль бяруць жыхары ваду для піцця, прычыняюцца вельмі да пашырэння пошасці плямістага тыфусу, асабліва такія студні найболей сустракаюцца ў Вілейскім, Лідскім і Троцкім паветах, стасоўныя віленскія губернскія ўласці маняцца наладзіць артэзійскія студні ў 45 найгусцей заселеных месцах губерні.

**«НН». №24. 1915.**

**Калякін быў на валасок ад гібелі.** Але не звязвае здарэнне з палітыкай. 26 чэрвеня кандыдат у прэзідэнты ад Партыі камуністаў Сяргей Калякін цудам пазбег найгоршага. У «Волгу», якой ён кіраваў, урэзаўся «Опель-Амега».

**«НН». №24. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 23.06.2015.
Замова №2135.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15024